● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

15 чэрвеня 1996 г. субота, №№ 151—152 (22954—22955)




# ЗВЯЗДА

## ВАЙНА НЕ ЗАКОНЧЫЛАСЯ, ПАКУЛЬ НЕ ПАХАВАНА ЯЕ АПОШНЯЯ АХВЯРА

### «ЗВЯЗДА» РАСПАЧЫНАЕ АКЦЫЮ ДАСТОЙНАГА ЎШАНАВАННЯ АХВЯР ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

**По розных падліках вядома: лічба не пахаваных належным чынам ахвяр Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі складае ад 1 да 1,5 мільёна.**

Дразды, астанкі, якія давялося там убачыць, абвастрылі суперажыванне за тыя далёкія і малавядомыя, чужыя і разам з тым родныя жыцці. Складваецца ўражанне, што мы пра многае забыліся. Пра аднавяскоўцаў, якія не вярнуліся з фронту. Пра дзеда. Пра спаленых у пуні немаўлят, якім ужо ніколі не стаць дарослымі...

У сёлетнім чэрвені — трагічныя 55-я ўгодкі пачатку фашысцкіх рэпрэсій на Беларусі. 28 чэрвеня гітлераўскія войскі ўвайшлі ў Мінск. І пакуль — да 2 ліпеня 1944 года — фашысты былі ў нашай сталіцы, у Мінску каты знішчылі 700.000 чалавек. Толькі з Мінска каля 70.000 было вывезена ў Германію на прымусовыя работы. Жахлівыя, жудасныя лічбы. Здаецца, што мы да іх прызвычаіліся. Тыя лічбы самі па сабе, а мы — самі па сабе.

У свой час у саставе Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь існавала ўпраўленне па ўшанаванню памяці загінуўшых. Няма таго камітэта, няма таго ўпраўлення. Ёсць, праўда, упраўленне, пошукавае падраздзяленне ў саставе Міністэрства абароны. Відаць, і правільна, што клопат ушанавання ахвяр ускладзены на плечы вайскоўцаў. Але ж ці толькі на іх плячах, у іх сэрцах павінен быць сапраўды ўсенародны боль?

Тры гады таму ў гутарцы з тагачасным выконваючым абавязкі начальніка ўпраўлення па ўшанаванню давялося пачуць такія словы: «Раней лозунг-дэвіз «Ніхто не забыты, нішто не забыта» сілкавала грамадская ініцыятыва. Пошукавымі групамі чырвоных следапытаў, што працавалі ў тэхнікумах, ПТВ, сярэдніх школах, кіравалі камсамольскія арганізацыі. Сёетое робіцца і зараз. Напрыклад, за апошнія 5 гадоў пошукавыя клубы адшукалі 20 тысяч невядомых дагэтуль імёнаў. Паднялі пошукаўцы і астанкі 3048 чалавек. У 1992 годзе дзіцячымі рукамі з зямлі падняты астанкі 252 байцоў Чырвонай Арміі, партызан Вялікай Айчыннай... А гранаты, міны, зброя, што знаходзяць школьнікі, студэнты, моладзь?.. Хто бярэ пад увагу гэту небяспеку, хто ўлічвае гэты момант?.. А сёння, мусіць, па вялікаму рахунку, і «сяго-таго» няма, калі не браць у разлік клопаты, плён працы пошукаўцаў-вайскоўцаў. Няма грамадскай ініцыятывы, што магла б зрушыць цяжкае каменне, пад якім хаваецца бяспамяцтва наша ўсенароднае.

Крыўдна і балюча бачыць забыццё, лічы, што знявагу. Пра якую духоўнасць тут можна весці гаворку, калі на касцях суайчыннікаў мы вырошчваем хлеб?! Няўжо ён не гарчыць?

Дразды — адно з многіх месцаў, што высвечвае і вышыню духу загінуўшых, і ў многім наша сённяшняе бяспамяцтва. Уся ваенная гісторыя Беларусі насычана Драздамі. Можа ўсё ж такі разгледзім, убачым іх?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Калі куля спыняецца ў сэрцы — час не спыняецца. Калі ў зямлі парахнее цела, а ржа з'ядае стрэлкі гадзінніка — час працягвае сваю няўмольную хаду.**

**Над забытымі магіламі вырастаюць лясы і ўсё глыбей у зямлю апускаюцца косці...**

**Забіць час можа тое, што мацней за кулю, — наша бяспамяцтва.**

**Час адмяраюць не гадзіннікі, а сэрцы. ПАКУЛЬ Б'ЕЦЦА Ў НАШЫХ СЭРЦАХ ПУЛЬС ПАМЯЦІ — ЖЫВЕ ЧАЛАВЕК. Жыве ў ім годнасць, сумленне. Жыве наша зямля, пакуль мы памятаем палеглых у яе.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



**АД РЭДАКЦЫІ. «Звязда» выступае з ініцыятывай дастойнага ўшанавання памяці ўсіх непахаваных, як належыць, ахвяр Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі (па розных звестках, іх на сёння ад 1 да 1,5 мільёна чалавек — савецкіх салдат, партызанаў, мірных жыхароў).**

**Упэўнены, што гэта канкрэтная работа будзе рэальна спрыяць патрыятычнаму выхаванню людзей, асабліва моладзі.**

**«Звязда» распачынае шэраг публікацый пра пошукавую работу ў гэтым напрамку. Мы звяртаемся да нашых чытачоў, ветэранаў, былых партызан і падпольшчыкаў, вучоных-даследчыкаў з просьбай дасылаць на адрас рэдакцыі свае сведчанні аб фактах, калі патрэбна належным чынам ушанаваць памяць тых, хто з гадоў вайны да гэтага часу па-людску не пахаваны.**

## З ДАПАМОГАЙ ЯРАСЛАЎЦАЎ ПРАБЛЕМ У МАЗа БУДЗЕ МЕНШ

Дагаворанасць аб стварэнні беларуска-расійскай прамыслова-фінансавай групы ў сферы машынабудавання дасягнута ў ходзе візіту ў Мінск дэлегацыі Яраслаўскай вобласці на чале з губернатарам Анатолем Лісіцыным. 14 чэрвеня дэлегацыю расіян прыняў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Паводле слоў А. Лісіцына, у выніку дагаворанасці нашы ўзаемаадносіны будуць развівацца на некалькі новым узроўні, які задавальняе абодва бакі. У ходзе візіту ў Мінск, адзначыў ён, яраслаўцы вырашылі і шмат іншых не менш важных пытанняў. У прыватнасці, падпісалі пагадненне, згодна з якім прадпрыемствы вобласці будуць напрамую працаваць з беларускімі партнёрамі і ўрадам рэспублікі.

Каменцiруючы вынікі праведзенай сустрэчы з яраслаўцамі, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што яна была заканамернай. Як вядома, Мінскі аўтамабільны завод зведвае цяпер цяжкасці, і многія з іх звязаны са скарачэннем паставак рухавікоў яраслаўскіх маторабудаўнікоў. «Сёння мы дагаварыліся, што прыярытэтам для Яраслаўскага завода павінен быць усё ж МАЗ»,— падкрэсліў ён.

Сустрэчу з яраслаўцамі, на думку Прэзідэнта, наогул можна разглядаць у рамках палітыкі, якую ён праводзіць па супрацоўніцтву з Расійскай Федэрацый, па цеснай увязцы эканомік дзвюх дзяржаў на ўзаемавыгадных умовах. «Я вельмі актыўна працую з прэзідэнтам і ўрадам Расіі. У той жа час інтэнсіўна вяду перагаворы з рэгіёнамі. Лічу, што асабістыя кантакты з кіраўнікамі рэгіёнаў, рэспублік і абласцей вельмі важныя», — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**



Асноўнай тэмай размовы прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра з прадстаўнікамі Яраслаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі, якія прыбылі 13 чэрвеня ў Мінск, было супрацоўніцтва ў галіне машынабудавання. На сустрэчу з прэм'ерам, якая адбылася раніцай 14 чэрвеня, яраслаўцы прыйшлі, маючы канкрэтныя прапановы, пакольку адбыліся іх перагаворы з прамыслоўцамі беларускай сталіцы.

Як вядома, цяпер гігант беларускай прамысловасці — Мінскі аўтамабільны завод прастойвае. А менавіта на «МАЗах» устанаўліваюцца дызельныя рухавікі, што выпрабляюцца яраслаўскімі маторабудаўнікамі. Перабоі ў пастаўках мазаўскіх «сэрцаў» і сталі асноўнай прычынай вымушаных водпускаў работнікаў Мінскага аўтазавода.

Зрэшты, нягледзячы на цяжкасці ў фінансаванні, а менавіта яны называліся ў якасці асноўнай прычыны невыканання графіка паставак прадукцыі маторабудаўнікоў, было выказана задавальненне тым фактам, што абодва бакі жадаюць вырашаць праблемы, якія накапіліся, разам. Мяркуючы па словах Анатоля Лісіцына, указ прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына аб выдзяленні 630 мільярдаў рублёў на развіццё машынабудавання ў Расійскай Федэрацыі значна палепшыць стан спраў.

На сустрэчы было падкрэслена, што тавараабарот вобласці з Беларуссю ў мінулым годзе ацэньваўся ў 240 мільярдаў расійскіх рублёў. У гэтым годзе, хутчэй за ўсё, гэты рубеж будзе пераўзыдзены.

Міхаіл Чыгір выказаў гатоўнасць у выпадку неабходнасці праводзіць такія сустрэчы часцей.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

*16 ЧЭРВЕНЯ — ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА*

## МЕДЫЦЫНСКІМ РАБОТНІКАМ БЕЛАРУСІ

Прыміце мае сардэчныя віншаванні з Днём медыцынскага работніка, маю глыбокую ўдзячнасць за вашу выключна высакародную і гуманную працу.

У рэспубліцы, якая перажывае складаны перыяд, зведвае дадатковыя цяжкасці ў сувязі з вынікамі самай маштабнай у свеце чарнобыльскай катастрофы, на вашы плечы ляглі шматлікія клопаты.

Цяжка кожны дзень бачыць пакуты і хваробу. Але радасць і ўдзячнасць соцень і тысяч людзей, вернутых да жыцця стараннямі ўрачоў, бязмежныя. Вось чаму так любяць і паважаюць вашу прафесію ў народзе.

Здароўе нацыі — важнейшы паказчык дабрабыту грамадства — у многім залежыць ад вашага прафесіяналізму і душэўных якасцей. Вернасць і адданасць сваёй справе, чалавечая цеплыня і самаадданасць дапамагаюць медыкам выстаяць, не дапусціць сур'ёзных збояў у аказанні дапамогі насельніцтву рэспублікі.

Медыцыну чакаюць сур'ёзныя пераўтварэнні. Кіраўніцтва рэспублікі зробіць усё магчымае для эфектыўнага вырашэння праблем, што накапіліся ў сферы, звязанай з аздараўленнем людзей. Упэўнены, што вашы працавітасць, жыццесцвярджальная энергія, бескарыслівасць і дабрыня дапамогуць нам паспяхова прайсці гэты шлях. Гэта вы пацвярджаеце кожны дзень.

Моцнага здароўя вам, шчасця, дабрабыту, міру.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

## ВІНШАВАННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Паважаныя медыкі! 16 чэрвеня вы адзначаеце сваё прафесіянальнае свята — Дзень медыцынскага работніка.

З павагай і ўдзячнасцю адносіцца народ Беларусі да вашай гуманнай і высакароднай справы — аховы здароўя грамадзян Рэспублікі Беларусь. Высокі прафесіяналізм, любоў да чалавека, гатоўнасць прыйсці на дапамогу хворым з'яўляюцца галоўнымі рысамі людзей у белых халатах.

Ваша самадданая праца на карысць людзей асабліва прыкметная цяпер, калі ў сістэме аховы здароўя склалася нялёгкае становішча: матэрыяльна-тэхнічная база не адпавядае ўзроўню развіцця сучаснай медыцыны, фармацэўтычная прамысловасць не можа забяспечыць патрабаванні ўстаноў аховы здароўя і насельніцтва ў лекавых сродках у поўным аб'ёме, не хапае сродкаў на капітальнае будаўніцтва і падрыхтоўку спецыялістаў.

Але дзякуючы намаганням урачоў, сярэдняга, малодшага медыцынскага і абслуговага персаналу ўстаноў аховы здароўя, вучоных і педагогаў навукова-даследчых і навучальных устаноў медыцынская дапамога насельніцтву аказваецца на дастаткова прафесіянальным узроўні.

Выказваю ўпэўненасць, што існуючыя цяжкасці будуць пераадолены і медыцынскія работнікі атрымаюць магчымасць яшчэ больш эфектыўна працаваць па забеспячэнню аховы здароўя людзей, павелічэнню працягласці іх жыцця.

Паважаныя медыцынскія работнікі! Віншую вас з прафесіянальным святам і жадаю ўсім вам здароўя, шчасця і поспехаў у вашай высакароднай працы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

*МАЛАДЗЕЧНА — 96*

# Слова + Музыка = Фестываль

***«Звязда» запрашае вас у Маладзечна. Для гэтага сёння дастаткова адкрыць нашу газету, якая «апякае» нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, і мы вам раскажам пра сустрэчы, пазнаёмім з думкамі яго ўдзельнікаў і арганізатараў. Карацей, што не зможа перадаць прамы эфір тэлебачання, паспрабуем зрабіць мы. Першае слова — мастацкаму кіраўніку фестывалю Міхаілу ФІНБЕРГУ:***

— У сёлетняга фестывалю ёсць свая адметнасць, якая выдзяляе яго сярод папярэдніх. Калі раней мы рабілі акцэнт толькі на канцэрты, якія праходзілі на асноўнай сцэне, то зараз болей увагі аддадзена паэзіі. На гэтым фестывалі пяць аўтарскіх паэтычных чытанняў з удзелам Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, Валянціны Аколавай, Леаніда Дранько-Майсюка. Пасля таго, як я пабываў на паэтычнай вечарыне Уладзіміра Някляева ў Віцебску, то загарэўся ідэяй наладзіць падобныя сустрэчы ў Маладзечне.

**— Што датычыцца музычнай праграмы, ці не атрымаецца так, што яна будзе ў нейкай ступені абмежаванай рамкамі аўтарскіх канцэртаў?**

— Я не магу сказаць, што за мінулы год беларускія кампазітары напісалі шмат песень. Але пры гэтым усё ж такі прагучала 37 новых твораў на адкрыцці. Я лічу, што пры такой нізкай заработнай плаце, якую атрымліваюць сёння паэты і кампазітары за сваю працу, для іх фестываль — хаця б маральная падзяка. Людзі павінны бачыць, што працуюць не «ў стол», што песні іх гучаць. Але мы не павінны забываць пра любімыя многімі песні, напісаныя раней. Я сказаў бы, што падчас фестывалю яны могуць атрымаць другое жыццё. Таму, сапраўды, мы вырашылі зрабіць аўтарскія канцэрты паэта Уладзіміра Някляева, кампазітараў Эдуарда Зарыцкага і Эдуарда Ханка — іх песні ў свой час спявала не толькі ўся Беларусь.

Яшчэ адна адметнасць — сёлета ў Маладзечна прыехалі калектывы, якія раней аказваліся па-за рамкамі песеннага фестывалю. Я шчаслівы, што народны хор імя Цітовіча адкрыў наша свята, што прыехаў аркестр імя Жыновіча. Народная песня — аснова музычнага мастацтва, якое маем зараз, на нацыянальным фестывалі ёй павінна належаць ганаровае месца.

**— Можна было зразумець, што з конкурсам маладых выканаўцаў вы «завязваеце»?**

— «Завязалі» пакуль што на гэты год. На Беларусі павінны нарэшце разабрацца, якія конкурсы павінны быць, якія фестывалі застаюцца прыярытэтнымі. Конкурсаў зараз многа самых розных, выканаўцы бегаюць з аднаго на другі, мільгаюць на экране адны і тыя ж твары. Хутка можна будзе ўстанавіць званне «прафесіянальны канкурсант». Але заўважце, што добрых спевакоў ад гэтага не прыбаўляецца. Колькі разоў па тэлебачанні паказалі «Зорную росстань», і ў вас будзе магчымасць пабачыць, каго такім чынам адшукалі для «Славянскага базара». Я вельмі б хацеў, каб на фестывалі быў конкурс беларускай эстраднай песні, мне вельмі падабаецца гэтым займацца. Заўважце: менавіта конкурс песні, як гэта робіцца ва ўсёй Еўропе, а не конкурс выканаўцаў. Таму што для нашай краіны рэпертуар зараз куды больш важны.

**— А вам навошта патрэбен фестываль беларускай песні, якая з цяжкасцю выжывае на сваёй зямлі?**

— Аднойчы я прыняў гэтую веру — у неабходнасць адраджэння беларускай культуры. Мяняць яе не хачу. Па-другое, наш аркестр з'яўляецца канцэртным аркестрам Беларусі. Ёсць нацыя — беларускі народ, якая сёння складае 70 працэнтаў насельніцтва гэтай зямлі. Хтосьці не ведае сваёй роднай мовы, гэта яго бяда. А той, хто ведае і паважае, павінен мець магчымасць атрымліваць задавальненне ад сустрэчы з родным словам.

**Гутарыла Ларыса ЦІМОШЫК.**

**ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ!**

**Як паведамілі рэдакцыі з дзяржаўнага прадпрыемства «Белпошта», падпіска на нашу газету прадоўжана да 19 чэрвеня ўключна. Спадзяёмся, што гэту інфармацыю выкарыстаюць тыя, хто па нейкіх прычынах яшчэ не падпісаўся на «Звязду». Нагадаем, падпісны кошт на месяц — 13.600 рублёў; на квартал — 40.800 рублёў; на паўгода — 91.600 рублёў.**

## «СКЛАДВАЕЦЦА ЎРАЖАННЕ, ШТО НАШЫ ЛЮДЗІ ЧАКАЮЦЬ ЧАГОСЬЦІ ВАЖНАГА АД ГЭТЫХ ВЫБАРАЎ...»

**Напярэдадні 16 чэрвеня — дня выбараў прэзідэнта Расіі — карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся меркаваннем аб гэтай несумненна важнай і для Беларусі падзеі некаторых вядомых у нашай краіне людзей. Усім ім былі зададзены тры пытанні:**

***1. Як передвыбарная «ліхаманка» ў Расійскай Федэрацыі адбіваецца на сітуацыі ў Беларусі?***

***2. Якім чынам можа змяніцца становішча ў Беларусі ў сувязі з магчымай зменай улады ў Расіі?***

***3. Калі б Вы былі грамадзянінам РФ — за каго б з дзесяці кандыдатаў галасавалі?***

Такім чынам, нам адказваюць:

**Алена ВАСІЛЕВІЧ, пісьменніца:**

1. Я не лічу, што перадвыбарная кампанія ў суседняй дзяржаве робіць нейкі істотны ўплыў на грамадскае і палітычнае жыццё ў нашай рэспубліцы. Хоць я, вядома, не палітык.

2. Паколькі сувязі мы маем моцныя, то са зменай улады ў Расіі нешта і ў нас можа змяніцца.

3. Я галасавала б за Лебедзя, без ваганняў. Гэта разумны чалавек, з нармальнымі поглядамі. Ён здолеў бы гэтую растрапаную, расшматаваную Расію прывесці ў парадак, зладзіць з ёю. Ён не абяцае ўсіх зрабіць багатымі (гэта проста нерэальна ў такой сітуацыі), галоўнае — каб людзі не баяліся жыць на белым свеце, хадзіць па вуліцы. Якія правы чалавека, якія «залатыя горы», калі маці выпускаюць пагуляць дзяцей і не ведаюць, ці вернуцца тыя дамоў. Гэта актуальна і для нас.

**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, дырэктар балетнай трупы акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь:**

1—3. Мяне пытанні палітыкі не цікавяць увогуле — ні ў Беларусі, ні ў Расіі. Зразумейце мяне правільна...

**Генадзь ПАШКОЎ, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»:**

1. Нягледзячы на тое, што нейкі разрыў паміж нашымі дзяржавамі ёсць, але маскоўскія газеты даходзяць да нас рэгулярна, а тым больш эфектыўна працуе тэлебачанне. Вядома ж, тое, што там адбываецца, даволі значна ўплывае на кожнага з нас.

2. Я не думаю, што са зменай там улады нешта канкрэтна, кардынальна зменіцца ў нас — не тыя цяпер часы, хоць мы дастаткова моцна звязаны і эканамічна, і духоўна.

3. За каго б я галасаваў? Мне заўсёды бліжэй людзі, якія стаяць за адзінства славянскіх народаў. А пагэтаму я ўзважыў бы, хто з прэтэндэнтаў на гэту пасаду зможа праводзіць інтэграцыйную духоўную і эканамічную палітыку найбольш цвёрда і паслядоўна.

**Сяргей ДАРОНІН, першы сакратар ЦК Беларускага саюза моладзі:**

1-2. Мне здаецца, што прайшоў ужо час, калі сітуацыя ў Расіі магла б кардынальна ўплываць на развіццё падзей у нас. Тым не менш, складваецца ўражанне, што і нашы людзі чакаюць чагосьці ад гэтых выбараў. Прычым важных змяненняў. Вядома, найперш трэба асцерагацца трагічных падзей у Расіі, бо яны, несумненна, могуць неяк перакінуцца на Беларусь.

Што датычыць сітуацыі са зменай улады ў Расіі, то з перамогай на выбарах Генадзя Зюганава можна чакаць змянення курсу і ў нас, у Беларусі.

3. Я галасаваў бы за выдатнага эканаміста Рыгора Яўлінскага.

**Вольга ТРАНДАФІЛАВА.**

**Да ведама дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 18 чэрвеня 1996 года ў 16 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

*СКАНДАЛ*

## Учора глыбокай ноччу супрацоўнікамі міліцыі быў абстраляны аўтамабіль, у якім знаходзіўся дэпутат Вярхоўнага Савета В. Ганчар

**Пазней, на прэс-канферэнцыі, Віктар Іосіфавіч расцаніў тое, што адбылося як «факт неправамерных, беспрэцэдэнтных дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі, калі ўпершыню была абстраляна на паражэнне машына народнага дэпутата». Але аб усім па парадку. Будзем прыводзіць тут толькі цытаты, пазбягаючы каментарыяў і аналізу.**

Па словах Віктара Ганчара, 13 чэрвеня ён дапазна праводзіў рабочую сустрэчу ў Эканамічным судзе краін СНД з суддзёй Сіманянам, які дэлегаваны ад Арменіі. Сустрэча зацягнулася да 23.30. «Пасля гэтага,— працягваў Віктар Іосіфавіч,— мы адвезлі яго на кватэру па праспекце Ф. Скарыны, каля метро «Усход». За рулём «Опеля» быў начальнік гаспадарчага аддзела Эканамічнага суда Лычоў, а таксама наша супрацоўніца Кацярына Антонік. На кватэры Сіманяна сустрэча працягвалася ў нефармальнай абстаноўцы, а прыблізна ў 2.30 ночы машына павезла мяне дамоў. Пасля гэтага вадзіцель меўся завезці дамоў і К. Антонік, якая пражывае ў «Малінаўцы». У раёне майго дома, калі аўтамабіль, праязджаючы па вуліцы Куйбышава, звярнуў у арку майго дома, нечакана ўспыхнула «мігалка» міліцэйскай машыны і раздаўся адзіночны выстрал. Як высветлілася пазней, стралялі з аўтамата. Куля трапіла ў заднюю левую дзверку аўтамабіля, прабіла яе і сур'ёзна параніла Кацярыну Антонік». Па словах Віктара Ганчара, калі б ён, як звычайна, сядзеў на заднім левым сядзенні, то несумненна загінуў бы. Але ўчора народны дэпутат «упершыню за апошнія два гады» сеў побач з вадзіцелем. «Адразу ж да нас кінулася 15-17 міліцыянераў, — расказваў Віктар Іосіфавіч. — Спачатку яны паводзілі сябе бесцырымонна, груба, а ўбачыўшы дэпутацкае пасведчанне, іх нахабства змянілася заечым спалохам. Яны адразу ж кінуліся па сваіх аўтамабілях, спрабуючы пакінуць месца здарэння, і начальніку нашага гасупраўлення Лычову даводзілася класціся ледзь не пад калёсы, каб хоць кагосьці затрымаць. Нам, нягледзячы на патрабаванні, не было прад'яўлена ніводнага службовага пасведчання, і толькі нарэшце паказалі чамусьці вадзіцельскія правы аднаго з міліцыянераў. Яны спрабавалі апраўдацца, даказвалі, што мы рухаліся з вялікай скорасцю, але як яна можа быць вялікай, калі машына ўязджае ў арку жылога дома за дзесяць метраў ад пад'езда. Экспертыза, дарэчы, пасля высветліла, што рухаліся мы ў той час са скорасцю 20-30 км/г; экспертыза таксама даказала, што наш вадзіцель быў цвярозы. Тым часам, міліцыянер, які страляў, быў вельмі напалоханы. Ён сядзеў на зямлі, абхапіўшы галаву рукамі і ўвесь час паўтараў: «Нам жа казалі, што будзем затрымліваць асабліва небяспечнага злачынцу...»

Віктар Ганчар, падкрэсліўшы, што яшчэ рана рабіць нейкія канкрэтныя вывады, тым не менш, сказаў: «Мне даводзіцца запаўняць яшчэ адну шакіруючую старонку нашага палітычнага жыцця. Фактам становіцца тое, што справа ў нас дайшла да запалохвання народных дэпутатаў, асабліва тых, якія маюць незалежны пункт гледжання».

Віктар Ганчар паведаміў таксама, што свае спачуванні з нагоды гэтага прыкрага інцыдэнту выказалі Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

Карэспандэнту «Звязды», нягледзячы на яго намаганні, не ўдалося ўчора атрымаць ніякай інфармацыі ў Міністэрстве ўнутраных спраў.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь смуткуе з прычыны смерці заслужанага работніка культуры БССР, старшыні творчага аб'яднання «Памяць сэрца», ветэрана Вялікай Айчыннай вайны ГАРДЗЕЯ Яўгена Іосіфавіча і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

## У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

### ПРЫЯРЫТЭТ — РОДНАЙ МОВЕ

**Новыя дапаўненні і змяненні ў Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» уносіць Камісія па адукацыі, навуцы і культуры.**

Як адзначыў старшыня камісіі Уладзімір Плецюхоў, датычаць яны, перш за ўсё, прынцыпаў дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у галіне адукацыі, правоў грамадзян на яе атрыманне. Перапрацаваны і дапоўнены артыкул аб мове навучання, дзе сказана, што асноўнымі мовамі выхавання і навучання з'яўляюцца беларуская і руская. Дзяржавай ствараюцца ўмовы для дасягнення і забеспячэння фактычнага раўнапраўя беларускай і рускай мовы ў сістэме адукацыі, што прадугледжвае развіццё і расшырэнне сферы выкарыстання беларускай мовы ў якасці прыярытэту дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

**Прэс-служба ВС РБ.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**ВЫБАРЫ Ў ЧАЧНІ ЎСЁ Ж ПАЧАЛІСЯ**

Міністр інфармацыі Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Удугаў заявіў, што сілы супраціўлення будуць разглядаць любыя спробы правесці 16 чэрвеня выбары ў народны сход Чачні як парушэнне дамоўленасцей аб міры, дасягнутых у Крамлі і Назрані. Па словах Удугава, чачэнскі савет абароны прыняў план мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб не дапусціць выбараў. У той жа час, як паведамляе агенцтва Рэйтэр, у Чачні ўчора адкрыліся выбарчыя ўчасткі. Галасаванне ў рэспубліцы павінна працягнуцца тры дні і завяршыцца ў нядзелю.

**ЕЛЬЦЫН ВЫБРАЎ ПЕРАЕМНІКА?**

Учора завяршылася выбарчая кампанія ў Расіі. Барыс Ельцын зрабіў сваю апошнюю перадвыбарную паездку ў Екацярынбург. Па прыбыцці ў гэты горад Ельцын заявіў, што ведае аўтарытэтнага чалавека, якога трэба рыхтаваць да выбараў 2000 года. На выбарах гэтага года гэтаму чалавеку трэба было б зняць сваю кандыдатуру, а ў наступны раз ён напэўна б прайшоў.

**ЗША ПАВАЖАЮЦЬ ПРАВА РАСІЯН НА ЎЛАСНЫ ВЫБАР**

Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Біл Клінтан заявіў, што яго краіна будзе паважаць рашэнне, якое расіяне прымуць на маючых адбыцца выбарах. Адказваючы на прэс-канферэнцыі ў Вашынгтоне на пытанне пра яго адносіны да магчымай перамогі камуністаў на расійскіх выбарах, амерыканскі прэзідэнт сказаў, што ЗША падтрымліваюць дэмакратычны працэс у Расіі і паважаюць права расіян на ўласны выбар. Клінтан дадаў, што ў яго склаліся добрыя адносіны з Барысам Ельцыным.

**БАГДАД ІГНАРУЕ ПАТРАБАВАННІ ААН**

Вашынгтон і Лондан заклікалі Савет Бяспекі ААН узмацніць ціск на Багдад, каб дабіцца дазволу іракскіх уладаў на наведанне інспектарамі ААН сакрэтных ваенных аб'ектаў Ірака. Апошнія дні ўлады Ірака перашкаджаюць наведванню экспертамі ААН аб'ектаў, дзе базіруецца рэспубліканская гвардыя прэзідэнта Садама Хусейна. Намеснік прэм'ер-міністра Ірака Азіс заявіў учора, што інспектары ААН не будуць туды дапушчаны, нягледзячы на патрабаванні Савета Бяспекі ААН.

**ПАБОЧНЫМ АСОБАМ УВАХОД ЗАБАРОНЕНЫ**

Латвійскі Сейм прыняў законапраект, які забараняе былым членам КПСС выстаўляць свае кандыдатуры на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Законапраект распаўсюджваецца таксама на асоб, якія працавалі ў апараце КДБ і іншых арганізацыях, забароненых пасля абвяшчэння незалежнасці Латвіі.

**ПЕРАМОВЫ ПА КАРАБАХУ ПРАЦЯГНУЦЦА Ў МАСКВЕ**

Учора ў Маскве пад эгідай АБСЕ адкрыўся чарговы раунд армяна-азербайджанскіх перамоў па ўрэгуляванню карабахскага канфлікту. На перамовах, якія працягнуцца тыдзень, плануецца абмеркаваць парадак адводу сіл бакоў і гарантыі бяспекі армянскага насельніцтва Нагорнага Карабаха. Статус гэтага рэгіёна будзе абмяркоўвацца ў канцы чэрвеня на прамых перамовах спецыяльных прадстаўнікоў прэзідэнтаў Азербайджана і Арменіі.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Пілотам, якія абслугоўваюць новазеландскія міжнародныя лініі, зараз дазваляецца паспаць у сваёй кабіне ў час рэйсу. Выносячы такое рашэнне, авіякампаніі зыходзілі з таго, што «лепш няхай адзін з лётчыкаў паспіць, чым усе адначасова будуць торкаць насамі». Паўгадзінны пачарговы адпачынак уведзены на рэйсах, якія займаюць больш як тры гадзіны палёту да першай пасадкі.

**Рэйтэр**

*Зняволены ў турме швейцарскага горада Лазан нейкім чынам узабраўся на трыццаціметровы ліхтар у двары папраўчай установы, ды так там і застаўся, не ведаючы, як спусціцца на грэшную зямлю: Прыйшлося выклікаць каманду выратавальнікаў. Так і засталося незразумелым, што падштурхнула злачынцу, які адбывае пакаранне, на «подзвіг».*

**Асашыэйтэд Прэс**

Манашкі карметліцкага манастыра ў амерыканскім горадзе Лос-Анжэлес вырашылі адпачыць ад малітваў за рыбнай лоўляй. Цэлы дзень яны правялі на возеры Падыгнстоўн. Але рыбалка не ўдалася. Манашкам удалося злавіць толькі адну рыбінку, якую яны адпусцілі ў родную стыхію.

**«Известия»**

**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.37 | 21.42 | 17.05 |
| Віцебск – | 4.18 | 21.41 | 17.23 |
| Магілёў – | 4.26 | 21.31 | 17.05 |
| Гомель – | 4.32 | 21.20 | 16.48 |
| Гродна – | 4.53 | 21.56 | 17.03 |
| Брэст – | 5.04 | 21.47 | 16.43 |

**МЕСЯЦ**

**Маладзік, 16 чэрвеня**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Нікіфара, Іаана, Юльяніі, Кіева-Брацкай Іконы Божае Маці**

**К. Беззаганнага Сэрца Дзевы Марыі, Ёланты, Віта**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 13—15, Магілёве — 14—16, Мінску, Гродне Гомелі — 15—17, Брэсце — 16—18 градусаў.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 16-га ўначы па паўночным усходзе, удзень — у заходніх раёнах кароткачасовыя дажджы; 17-га пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 3—8, месцамі на глебе ў Брэсцкай вобласці слабыя замаразкі да 0—мінус 2; удзень — 13—18, 17-га па паўночнаму захаду да 22 градусаў цяпла.

## Ніл ГІЛЕВІЧ,

**народны паэт Беларусі**

# Новыя вершы

### Просьба ў дзень аховы навакольнага асяроддзя

*Суайчыннікі!*
*Прашу вас: праявіце*
*Сілу волі —*
*Міжнародны ж дзень усё-ткі!*
*Патрывайце ўжо як-небудзь!*
*Пацярпіце!*
*Гэта ж толькі дзень!*
*Хоць ён і не кароткі.*

*Заўтра ж...*
*Заўтра прадаўжайце зноў*
*Заўзята*
*Руйнаваць, знішчаць,*
*Труціць, паскудзіць, брудзіць —*
*Каб нарэшце даканаць.*
*І справіць свята.*
*І самім сабе*
*Са смецця*
*Помнік згрудзіць.*

5.6.1996

### Папярэджанне

*Запраданцы і зноскі!*
*Прадавайце,*
*ды знайце, сычы:*
*Прыйдзе час — Каліноўскі*
*Вас аднойчы падыме*
*ўначы.*
*Не, ён вас не павесіць,*
*Нават пальцам ён вас*
*не кране.*
*Толькі ў вочы пасвеціць:*
*На каго вы падобны — зірне.*

29.5.1996

### Ураўнялі

**Прысвячаецца ініцыятарам і апалагетам рэферэндума па мове.**

*Ураўнялі, ураўнялі дабрадзеі*
*З беларускай «валадаркаю дзяржаўнай,*
*Самаўладнай, паўнамоцнай, паўнапраўнай» —*
*Ураўнялі занядбаную, забытую,*
*Пагарджаную, гаротную, забітую,*
*Здратаваную, стаптаную, спляваную,*
*Што гібела ў нас без праў і без надзеі, —*
*Ураўнялі пераможцы-дабрадзеі!*

*Ураўнялі — і з палёгкай уздыхнулі:*
*Хоць праз два вякі, а ўсё-такі вярнулі*
*Справядлівасць! І цяпер законным шляхам,*
*З апантанасцю, з імпэтам і размахам*
*Адраджаюць... занядбаную, забытую,*
*Пагарджаную, гаротную, забітую,*
*Здратаваную, стаптаную, спляваную,*
*Што гібела ў нас без праў і без надзеі...*
*Адраджайце, адраджайце, дабрадзеі!*

*І не верце, ашчаслівленыя «роўнасцю»,*
*Калі хтось, апрацаваны прапагандай,*
*Скажа вам, што вы ўраўнялі*
*Гонар — з ганьбай,*
*Годнасць — з подласцю,*
*Сумленне — з бессаромнасцю.*
*Так сказаць пра вас,*
*Забыўшы, хто і дзе мы,*
*Могуць толькі «недабітыя нацдземы».*

20.5.1996

### Дзяржаўнікам Беларусі

*Які зрабілі выбар вы, мужы?*
*Якой рашылі дасягнуць вы мэты?*
*Каб край наш, ад мяжы і да мяжы,*
*Ізноў нашпігавалі ўсцяж ракеты?*

*Каб нас узяў на ядзерны прыцэл*
*Зняверaны і знерваваны Захад?*
*Каб лёс трымаў наш у сваёй руцэ*
*Пірат, прывучаны хапаць наўзахап?*

*Вы думаеце, што народ маўчыць,*
*Раз не штурмуе вашы бастыёны?*
*Ён не маўчыць. Ён дзень і ноч крычыць.*
*Ды вам чамусь не чуцен крык ягоны.*

*Няўжо чакаеце вы дня, калі*
*Яго дзяцей, узрошчаных любоўю,*
*За белы свет ад роднае зямлі*
*Пагоніць бравы генерал на бойню?*

*Калі пачнуць падлеткі аддаваць*
*Сваё жыццё за нечыя мільярды?*
*Што ж не даходзіць крык людскі да вас?*
*Мужы! Ганебна быць рабом кукарды!..*

28.5.1996

### Адлучаным

*Браты палякі, чэхі і славакі,*
*Харваты і славенцы,*
*лужычане!*
*Я ж думаў, як і кожны*
*з нас і ўсякі,*
*Што вы адроду,*
*з век-вякоў — славяне.*

*А вы, аказваецца,*
*нейкай іншай*
*Крыві й душы —*
*таму і без вагання*
*Вас ад славянства*
*адлучылі ўвішна*
*Правадыры славянскага*
*яднання.*

*Сам найвялікшы*
*славянін эпохі —*
*Карэнны самы, самы чыста-*
*кроўны —*
*Пацвердзіў гэта,*
*каб ніхто ні трохі*
*Не сумняваўся,*
*чый тут Бог галоўны.*

*Каб, ахрышчоны*
*ў праваслаўным храме,*
*Я пазіраў-глядзеў*
*на вас звысоку.*
*І вы каб знаді розніцу*
*між намі:*
*Вы нам — букеты з руж,*
*мы вам — з асоту.*

*Вось так, браты.*
*Віншую вас з падзелам!*
*І не здзіўляйцеся,*
*калі чыноўны бонза*
*Мяне аб'явіць заўтра*
*іудзеем*
*І намякне: матай,*
*пакуль не позна!..*

8.6.1996

### «Несупадзенне»

*«Палкай!*
*Палкай іх!» —*
*Фельдфебелі крычаць.*
*«У застолле іх,*
*браткоў!» —*
*Гукаюць штацкія.*
*«У абдымкі іх узяць!*
*Ды так узяць —*
*Каб адчулі,*
*Што абдымкі нашы —*
*Брацкія!*
*Каб ад шчасця*
*Ім аж мову адняло!*
*Ад Ацечаства —*
*На ўсіх нас аднаго!»*

23.5.1996

# СТАНЦЫЯ КОЙДАНАВА ЯК ПРЫПЫНАК ГІСТОРЫІ

## ЛІРЫЧНЫЯ НАТАТКІ НЕСПАКУШАНАГА ВАНДРОЎНІКА

ЛЁГКІ ВЕТРЫК урываўся ў расчыненыя вокны і гулліва кудлаціў валасы нешматлікіх пасажыраў, якія ў гэты ранні час ехалі ў напрамку Стоўбцаў. Амаль усе драмалі, размораныя перастукам колаў і летнім, па-ранішняму не гарачым яшчэ, а лагодна-цёплым сонцам. Я крыху ім зайздросціла: дарога была колькі разоў езджаная-пераезджаная, ці не кожны слуп на тых трыццаці з нечым кіламетрах, што аддзялялі мяне ад мэты падарожжа, быў знаёмы. Нічога новага ў навакольным краявідзе, хіба што ярка-фіялетавыя плямы дзікага лубіну на ўзгорках абапал чыгункі, якія ў спалучэнні з паўсюднай зелянінай розных адценняў сведчылі, найбольш праўдзіва і нахабна сведчылі, што вось яно, лета, схаванае ад гарадскога вока і больш сціплае сярод асфальту і бетону, тут, на прасторы, уладарыць на поўную моц... Я ехала ў горад, які быў са мною з самага маленства, нібыта ўпершыню. Я хацела паглядзець на яго вачамі чалавека, які ніколі ў ім не быў і трапіў сюды зусім-зусім выпадкова, усяго на дзень, занесены ветрам вандраванняў... Адсюль, бадай што, былі і хваляванні: наўрад ці здолею напісаць так, як напісаў бы той выпадковы вандроўнік, занадта шмат помню, ведаю, адчуваю.

Гэты горад з'явіўся ў маім жыцці, як прыгожая таямнічая казка. Яшчэ толькі пачынала ўсё разумець, а ўжо чула, як бабуля казала брату ці сястры, калі тыя скардзіліся, што давялося ісці пешшу з суседняй вёскі: «Гэта яшчэ што! Вось мы, як былі маладыя, у Койданаў і назад за дзень хадзілі...» Койданаў (а менавіта так называюць наш раённы цэнтр усе мае землякі) здаваўся тады нечым недасягальным, вялікім, загадкавым, і як запаветная мэта была — з'ездзіць туды... Памятаю, як мы, малыя, забыўшыся на вясёлыя гульні і збіўшыся ля лаўкі ў прыціхлую чародку, слухалі, як суседка, старэнькая ўжо бабуля, апавядала пра бойку князя Скірмунта з татарскім ханам Койданам, чаргуючы павольны расказ з цягучай, падобнай, напэўна, на балады гусляроў у старажытнасці, песняй...» І ўцякаў Кайдан, і не пайшлі больш татары на нашу зямлю...» Уяўляліся велічныя крапасныя сцены, старыя брукаваныя вуліцы, будынкі з цёмна-чырвонай даўнішняй цэглы...

**НА ЗДЫМКУ: такім быў Кальвінскі збор у 1914 годзе. Сёння ён стаў бы сімвалам старажытнага Койданава. Але ад усяго збудавання застаўся толькі кавалак падмурка.**

*Фота зроблена да першай сусветнай вайны і прадастаўлена рэдакцыі Дзяржаўным архівам кінафотадакументаў.*



Калі казачны, загадкавы, незвычайна-таямнічы Койданаў ператварыўся для мяне ў правінцыяльны, звычайны, шэры Дзяржынск? Мусіць, пасля першай паездкі туды. Хаця не, не адразу: доўга не хацела разумець тлумачэнні дарослых, што гэтыя два словы — адно і тое ж, з непахіснай дзіцячай упартасцю спрачалася з усімі, не хочучы развітвацца назаўсёды з прыгожай казкай.

А калі, нарэшце, зразумела, што ўсё так, як гавораць дарослыя, — выкінула з памяці ўсе тыя дзіцячыя глупствы. І нават калі на нешматлікіх уроках краязнаўства чула тыя ж знаёмыя ўжо паданні, пра бітву пад Крутагор'ем, пра хана Койдана, — усе яны здаваліся толькі прыгожымі выдумкамі. А перад вачыма паўставаў той Дзяржынск, які я ведала: са звычайнымі, як і ў вёсцы, драўлянымі хатамі, з чатырма-пяццю дзевяціпавярховымі шэрымі скрынкамі, якія здаваліся вянцом цывілізацыі... А яшчэ чамусьці часцей за ўсё ўяўляўся гарадскі базар, хаця яго і базарам назваць нельга: так пара-тройка гандлёвых радоў, ля якіх ніколі не бывае людскога тлуму і гоману, як на сапраўдным кірмашы, а пасля апоўдня нават у выхадны дзень ужо пуста. Толькі стаіць адна бабуля ля вядзерца з грушкамі-гнілушкамі, якіх пад беспрытульным дрэвам у суседнім сквера насыпана — аж зямлі не відаць... І такое нейкае шкадаванне ахоплівае, і нешта такое пяршыць у горле, і хочацца выпрасіць у мамы пяць рублёў і аддаць іх гэтай бабульцы, забраўшы тыя гнілушкі, каб яна не стаяла ля вядзерца з імі, адна сярод пустых радоў, маленькая, сухенькая, нямоглая...

«...Наступная станцыя Койданава,» — санліва-раўнадушны голас машыніста вяртае заблукаўшыя было думкі да рэчаіснасці. Іду да выхаду. «Дзяўчына, гэта Дзяржынск?» — «Так». Звыклае пытанне, традыцыйны адказ. Ступаю на няроўную, усю ў нейкіх каменьчыках і выбоінах платформу, пераскокваю равок, на дне якога нават самым гарачым летам стаіць брудная вада, іду па шырокай пыльнай вуліцы, абсаджанай з аднаго боку старымі таўшчэзнымі таполямі, на якіх з вясны да восені вядуць сваю гаворку на незразумелай мове гарластыя бліскучыя гракі. Усё як заўсёды. Дзень добры, Дзяржынск, мой першы ў жыцці горад! Я зноў прыехала да цябе. Але не дзеля таго, каб паласавацца салодка-халоднай марай усіх вясковых дзяцей — марожаным, не дзеля таго, каб купіць новыя, «гарадскія» строі ў мясцовым універмагу. Я хачу расказаць усім, які ты ёсць і аб чым ты маўчыш, прыкрыўшыся намёткай забыцця. Я хачу, каб людзі ведалі аб тваёй былой славе, аб тваёй трагедыі, аб тваім гэткім самым, як і ў многіх нашых старадаўніх гарадоў, болі...

Горад майго маленства на год старэйшы за Маскву. Сёлета яму спаўняецца 850. Як вядома, датай заснавання старажытных гарадоў лічыцца год першага іх упамінання ў летапісных крыніцах. Але з Дзяржынскам (гэта я яго так заву па звычцы, а восем з паловай стагоддзяў усё ж не яму, і нават не Койданаву, а Крутагор'ю) крыху інакш. Вядомы рускі этнограф мінулага стагоддзя Павел Шпілеўскі ў сваёй кнізе «Падарожжа па Палессю і беларускім краі» ўзгадвае, што ў старой Койданаўскай царкве бачыў абраз, датаваны 1146 годам і падпісаны — «Крутагор'е». Зыходзячы з гэтага сведчання этнографа і вядуць адлік узросту горада сённяшнія летапісцы. Думаю, ніхто не здзівіцца, калі скажу, што абраза таго ўжо даўно няма... А вось царква стаіць. Белая, зусім не чыста-лёгкая, як нешматлікія храмы пачатку хрысціянства, а нейкая больш прыземленая, — тыповая для XVIII стагоддзя, з безгустоўнай, сённяшняй ужо, жоўта-зялёнай аздобай. Яна сягоння — адзіны ў старажытным горадзе помнік, які захаваўся. Калі не лічыць драўлянага касцёла, што на доўгі час быў аддадзены пад музычную школу і знешні выгляд якога ад такога пераўвасаблення значна пацярпеў. 5 гадоў таму касцёл аддалі вернікам, і яны, наколькі тое было магчыма, давялі-такі яго да ладу, дзякуючы Богу і ўладам за тое, што ў будынку была толькі школа, а не склад ці канюшня...

Але я іду не да царквы, і нават не да адноўленага касцёла. Пешшу (у горадзе толькі 4 аўтобусныя маршруты і ехаць да патрэбнай вуліцы можна да вечара) іду па запыленых, цесных, амаль вясковых вулках, у якіх хаты выходзяць на дарогу проста прызбамі, а паветра цяжкое — душнае ад салодкага паху язміну на кожным падворку. Іду да месца, якое і сёння гараджане завуць Кальвін, ці Гаштольд, не ведаючы, пэўна, адкуль узяліся тыя словы. Там, на ўскраіне горада, ля падножжа даволі крутога па беларускіх мерках (нездарма ж было — Крутагор'е) узгорка стаіць кавалак парослай мохам сцяны. Старыя выкрышаныя цагліны, якія, здаецца, пахнуць даўнінай...

З аднаго боку да рэшткаў сцяны прыляпіўся ларок, што гандлюе газай. Непадалёку пасвяцца козы, а на ўзараных участках хутка ўжо будзе красаваць бульба... Нямногія з пакупнікоў газавага ларка ведаюць, што дыхтоўна складзеная шмат стагоддзяў назад цэгла — усё, што засталося ад велічнага Кальвінскага збору, пратэстанцкі храм якога яшчэ 90 гадоў таму будзіў сваімі званамі ўсё наваколле... У краязнаўчым музеі мне паказалі фота, датаванае 1914 годам, на якім Кальвінскі збор — ва ўсёй сваёй красе. Вежы і крапасная сцяна падобныя да тых, што аднаўляюць зараз у Міры, за сцяной — высокі купал уніяцкага храма... Гісторыкі пішуць, што замак пабудаваў князь Альгерд Гаштольд, які валодаў паселішчам у пачатку XVI стагоддзя. Пасля на падмурку замка, пакінуўшы некаторыя дэталі, нехта з Радзівілаў (а яны былі ўладарамі Койданава 280 гадоў) узвёў прыстанішча і малельны дом для ўсіх знатных уніятаў ваколіцы, якія не захацелі прыняць каталіцкую веру. Потым, калі Радзівілы ўсё ж сталі прыхільнікамі рымскай царквы і цар за актыўны ўдзел у паўстанні 1831 года адабраў у іх Койданава, збор працягваў дзейнічаць і да 1914 года ў царкве вялася служба...

Тыя, хто разбурылі горад і знішчылі людзей у нашым стагоддзі, данясенняў не пісалі. Засталіся толькі маўклівыя сведкі іх зверства — рэшткі старой замшэлай сцяны і чорны гранітны помнік недалёка ад яе ў невялікай нізкай агароджы. Кальвінскі збор разабралі на цэглу пры Савецкай уладзе, пачаўшы адразу, як толькі ў горад зайшлі пагранічнікі, і скончыўшы ўжо пасля вайны. Цэглу цягала і дзяржава на пабудову бальніцы, і гараджане з бліжэйшых вулак. Помнік яўрэям горада, якіх па перапісу 1923 года ў Койданаве з чатырох з нечым тысяч насельніцтва было амаль тры з паловай тысячы. Усіх расстралялі фашысты ля Гаштольдавай гары. Цяпер магіла трох тысяч — у маленькай цеснай агароджы. А вакол — агароды. За паўстагоддзя знішчылі ўсё, што заставалася ад старога слаўнага мястэчка Койданава — велічную забудову і рамеснікаў, дзякуючы якім гудзеў больш за тры стагоддзі чатыры разы на год славуты Койданаўскі кірмаш.

У майго горада адабралі нават імя. Гісторыкі дагэтуль спрачаюцца, што стала прычынай змены назвы «Крутагор'е» на «Койданава». Найбольш прымальная версія — бітва Міндоўга з ханам Койданам у 1249 г. ля паселішча... Пра другое перайменаванне гісторыкі ведаюць дакладна, але і сёння не вельмі хочуць гаварыць — занадта ўсё непрыгожа і штучна. У 1932 годзе ў «Жалезнага Фелікса» быў юбілей. З гэтай нагоды было тэрмінова вырашана назваць яго імем горад. Калі б не мяжа, не быў бы сёння Івянец Івянцом (менавіта ля гэтага мястэчка знаходзіўся маёнтак Дзяржынскіх). Але Івянец быў «пад Польшчай», а бліжэйшы да яго горад па другі бок мяжы — Койданава. Так і стаў мой горад Дзяржынскам, хоць ніколі ў ім не ступала нага славутага чэкіста. На Цэнтральнай плошчы дагэтуль стаіць яму помнік, а мясцовыя падшыванцы часта ўтыкаюць у зубы Феліксу Эдмундавічу цыгарэту...

«...Горад гэты стары, як свет, а лепш сказаць, як Кітай, і, як Кітай, чужы ўсякаму прагрэсу — які быў спрадвеку непрыглядны, такі і цяпер застаўся...» Гэта Уладзіслаў Сыракомля пра Койданава. Канец XIX стагоддзя...

Хваля адраджэння пачатку 90-х так і не закранула маленькі Дзяржынск. Ён так і застаецца са сваёй жалезна-чэкісцкай назвай, хаця вярнуць яму імя значна лягчэй, чым многім: на ўсіх чыгуначных картах значыцца станцыя Койданава. Гараджане дагэтуль помняць простыя і зразумелыя назвы местачковых вуліц: Рубяжэвіцкая, Плябанская... Але іх у горадзе няма. Затое ёсць дзве вуліцы Ленінскія, цэнтральная носіць імя Маркса, вуліца са старымі таполямі, што вядзе да чыгуначнага вакзала, — Камуністычная... Адзінае, што зрабілі, — паставілі помнік Кальвінскаму збору: невялікі камень з надпісам «Гарадзішча...»

У канцы чэрвеня гараджане будуць святкаваць дзень нараджэння Крутагор'я. Будзе шмат весялосці, гульняў, нават банальны правінцыяльны базар ператворыцца на дзень у тлумны Койданаўскі кірмаш. Але шоу скончыцца, і зноў Дзяржынск стане звычайным райцэнтрам.

Я адыходжу ад сцяны, зноў крочу па запыленых душных вулках да вакзала. Шкада, што дзіцячая казка скончылася, так і не пачаўшыся. Праўда, я ўжо зараз расказваю малым пляменніцам пра бойку Скірмунта і Койдана, пра татарскага хана Балаклая, што таксама ўцякаў ад Крутагор'я. Яны пакуль не разумеюць толкам, што гэта я — пра шэры, правінцыяльны Дзяржынск. Спадзяюся, калі зразумеюць — сэрца сціснецца ад болю. Калі так і будзе — не ўсё яшчэ, значыць, страчана.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА МАЦІ

**Я НА пільна сочыць за падзеямі ў Чачні, за перамовамі, якія могуць палажыць канец самай жудаснай несправядлівасці ў свеце — забойству адных людзей другімі. Яна жадае, каб гэтая вайна хутчэй скончылася. Зараз у мірнай Беларусі маці Аляксандра Застаўнага думае пра падзеі ў Расіі з асаблівым болем — там пакінуў жыццё яе сын.**

Самая лёгкая і хуткая дарога — да маці. І самая доўгачаканая. Бо заўсёды знаходзяцца абставіны, якія адцягваюць сустрэчу, знаходзяцца справы, якія неадкладна трэба зрабіць. У маленькім горадзе ці вёсачцы толькі і застаецца чакаць. Прагледзеўшы ўсе вочы, чуйна прыслухоўваюцца да крокаў міма хаты, да стукаў у дзверы.

Выплакаўшы ўсе слёзы, Вольга Мікалаеўна Ялагіна глядзіць на дарогу... і больш не чакае нікога з далёкага горада.

Вёска Самойлавічы сярод іншых вёсак Бярозаўскага раёна адрозніваецца тым, што сюды праляглa дарога з Чачні. А яшчэ — тут амаль ужо паўгода плача Маці. Чужая, далёкая вайна пастукалася ў дзверы. Вайна, у якой няма пераможцаў, затое многа пацярпеўшых. І, як заўсёды, пасля заканчэння гэтай вайны таксама будуць з пафасам выклікаць лозунгі пра тое, каб «не дапусціць», «асудзіць», «ушанаваць». А маці з аднаго і другога боку так і не змогуць адказаць на пытанне: «Дзеля чаго?»

Мне цяжка было прасіць яе аб сустрэчы. Ёй — нялёгка было згадзіцца. Ізноў абпаліць полымем памяць, прагаварыць дзень, каб потым яшчэ тыдзень імкнуцца неяк утаймаваць боль. Няпраўду кажуць, што час вылечвае боль. З часам боль толькі растварaецца ў паветры, заражаючы іншых людзей, насычае сцены хаты, якая ўсё жыццё служыла крэпасцю, а зараз паглядзіш — яе быццам нешта падкасіла. Боль разбурае дамы, засцілае нябесны блакіт чорным, а людзей ператварае ў дрэвы, на галінках якіх ужо ніколі не зазелянее лісце. І ў кожным з нас абавязкова з'яўляецца на першы погляд незаўважная сухая галінка чужога болю.

## МАЦІ

Як усе дзяўчынкі, яна думала пра тое, як нарадзіць у душы і выпеставаць уласнае шчасце. Як усе дзяўчаты з вёскі, хадзіла ў горад на танцпляцоўку. У тыя часы гэта месца было парасткам рамантызму, тут заводзілі знаёмствы, прызнаваліся ў каханні на ўсё жыццё, прапаноўвалі руку і сэрца. Танцпляцоўка была вельмі сур'ёзнай грамадскай установай, дзе не толькі бавілі час, як цяпер, а шукалі самае сапраўднае пачуццё. Тут знаходзілі будучых мужоў і жонак. Знайшла і яна. Абраннікам стаў прыгожы салдат, якому нямнога заставалася служыць. Хутка салдат зняў форму і пераапрануўся ў звычайны касцюм. Яны пажаніліся. І панесла жыццё з роднай вёскі ў іншы край, на новым месцы будаваць шчасце.

Шчасце аказалася недасягальнай марай. Муж запіў і зусім не думаў пра сям'ю. Праз нейкі час Вольга вярнулася ў бацькоўскую хату, дзе быў адзін пакой і печка. Прывезла маленькі пухленькі камячок. Ізноў пачала думаць пра шчасце, цяпер для свайго маленькага сына.

Хутка прыехаў муж. Абяцаў выправіцца. Пяцёра, з бацькамі, так і жылі ў адным пакоі. Затое малы Саша тут няўпэўненымі крокамі асвойваў невядомы свет. Тут жа ў гэтай хаце канчаткова адышло каханне. Побач быў зусім іншы мужчына, несамастойны, слабы, не здольны выконваць абяцанні. Зусім не той абаронца, якога яна сустрэла на танцпляцоўцы. Муж паехаў на радзіму, і яна яго болей не бачыла.

У кахання бывае кароткі лёс, калі яно не падмацавана павагай і адказнасцю. Хаця... Нават пасля расчаравання каханне па-ранейшаму ішло побач у выглядзе сыночка Сашы. Толькі пра гэта не думалася за справамі і імкненнем пераламаць няшчасце.

Ні разу Саша не папракнуў маці, што пакінула яго без бацькі. Ніколі не пытаўся, чаму яна выбрала такі шлях. Хоць у занепакоеных чужым жыццём аднавяскоўцаў заўсёды ёсць свой погляд на лёс разведзеных жанчын, сын не прыносіў з вуліцы непавагу да маці, не выказваў зайздрасці да дзяцінства сваіх сяброў. Затое, як маленькі гаспадар, рады быў чымсьці дапамагчы. З пяці гадоў бегаў пасвіць кароў, а як на рыбалку пойдзе, дык абавязкова шчупака цягне.

Так і жылі. Яна, як жанчына, падкошаная расчараваннем, імкнулася забыцца ад адзіноты. А ён мужнеў побач з яе слабасцю і безабароннасцю.

Ён рос моцным і сціплым хлопцам. Не даймаў маці сваімі «хачу», бо разумеў, як жывецца на зарплату бібліятэкара. Зразумела, хацелася быць модным, не адставаць ад сваіх аднакласнікаў. Тады ўсе бацькі збіралі для сваіх любімых дзетак на фірменныя джынсы, па двесце рублёў плацілі, а гэта ж цэлае багацце для іх сям'і. Саша падышоў да маці: «Дай дзесяць рублёў, у «Детском мире» ёсць джынсы, мне хопіць і нашых». Так, ён імкнуўся спаборнічаць з аднагодкамі, але ў сіле і спрытнасці. У Вольгі Мікалаеўны і зараз ляжыць стос ганаровых грамат і дыпломаў пасля перамог сына на розных спаборніцтвах. Усё, што зараз нагадвае маці аб тым, якім рос яе хлопчык.

Пасля восьмага класа Саша сказаў, што хоча стаць спартсменам. У іх класе было некалькі самых моцных і спартыўных хлопцаў, каго настаўнік фізкультуры агітаваў паступаць у фізкультурны тэхнікум. «Дзіця малое, што яно разумее», — кажа Вольга Мікалаеўна. Пасядзелі, паразмаўлялі. «Чаго ты чакаеш ад спорту? У спартсменаў кароткі лёс. Многія атрымліваюць траўмы і сыходзяць. І далей — няма росту. Ты ўпэўнены, што хочаш быць настаўнікам фізкультуры?» У выніку вырашылі пайсці ў дзевяты клас.

Але за два гады ён так і не выбраў свой шлях. Пасля школы ўсе хлопцы павальна збіраліся ў ваеннае вучылішча. Быў такі бум, ці то мода расставіла свае акцэнты? Ізноў сур'ёзная размова пра тое, кім быць. Ізноў спроба маці засцерагчы сваё дзіця. Ізноў вырашылі пачакаць, а пасля арміі канчаткова вызначыцца. «Не хвалюйся, мама, я сам стану на ногі і разбяруся, што мне патрэбна».

Саша быў ужо дарослы, калі маці зноў задумалася пра шчасце. Аднойчы пастукаўся ў дзверы іх хаты незнаёмы мужчына з чамаданам, спытаў Вольгу Мікалаеўну. Яна выйшла і знямела, не ведаючы, як растлумачыць сыну гэта з'яўленне. «Саша, памятаеш, я ездзіла па пуцёўцы адпачываць?.. Там я пазнаёмілася з Віктарам». Сын адразу ўсё зразумеў: «Ну і правільна, мама!»

Разам з новай сям'ёй у хаце пасялілася надзея. Саша збіраўся ў армію, а Вольга Мікалаеўна чакала другое дзіця. Саша апякаў яе, усю работу па дому рабіў сам. Аднойчы купіў білеты на нейкі папулярны фільм і павёў цяжарную маці з айчымам у гарадскі кінатэатр.

Ён так хацеў пабачыць маленькага, ды прыйшла позва з ваенкамата. Але тут раптам Саша трошкі захварэў і яму дазволілі затрымацца дома яшчэ на некалькі дзён. Нарадзіўся брацік Коля, а на наступны дзень Саша пайшоў у войска. Паспеў-такі пазнаёміцца з маленькай істотай, якая засталася маці замест яго.

## САША

Аднойчы служба яго забрала з дому, каб болей не адпусціць да маці зусім. Прыгожы, моцны хлапец трапіў на службу ў Маскоўскую камендатуру. Ды пасля тэрміновай так і застаўся ў тагачаснай сталіцы Саюза. Сябры сагітавалі застацца, толькі ўжо на іншай службе, ва ўнутраных войсках. Пачаўся новы адлік часу ў яго жыцці. Так паступова Аляксандр Застаўны стаў старшым упаўнаважаным спецыяльнага атрада хуткага рэагавання. Паступіў у Маскоўскі палітыка-юрыдычны інстытут на факультэт правазнаўства.

Пра яго службу маці амаль нічога не ведае. Ён ніколі нічога не расказваў. Бывала, сябры яго пытаюцца: «Як ты там працуеш?» А ён коратка — «Працую». І ўсё. Ды падчас кароткіх пабывак дома і так было пра што паразмаўляць.

Дадому Саша заўсёды ехаў з падарункамі. Маці даставалася чарговая порцыя самай моднай касметыкі, брацiку — ласункі. Колька так прывязаўся да Сашы, што жыў ад чакання да чакання. А старэйшы, дарослы брат вазіўся з малым амаль па-бацькоўску. І па ўрачах з ім хадзіў, і ў садок адводзіў, і з садка забіраў. Аднойчы выхавальніца заўважыла: «Гэта такі тата ў нас малады?» А той нават не збянтэжыўся, з гонарам, нібыта пра самае высокае званне, паведаміў — «Старэйшы брат». Малады і прыгожы.

У іх камандзе ўсе хлопцы былі як на падбор. Вольга Мікалаеўна гаворыць, што мэтай атрада, у якім служыў яе сын, была барацьба з арганізаванай злачыннасцю, тэрарызмам, выратаванне заложнікаў. У 93-м годзе яе Саша быў сярод нямногіх з іх атрада, каго накіравалі на стажыроўку ў Амерыку. Амерыканскія палісмены вучылі хлопцаў змагацца з бандытамі. Зараз Вольга Мікалаеўна час ад часу праглядае «амерыканскую» відэакасету, якую прывезлі і пакінулі ёй Сашавы сябры. Глядзіць на жывога, спрытнага сына і кажа: «Высакародная справа — сачыць за парадкам у горадзе, лавіць бандытаў, многа іх зараз развялося. Але пры чым жа тут вайна?..»

За падзеямі ў Будзёнаўску год таму яны назіралі дома па тэлебачанні. Не было і думкі, што там можа аказацца Сашаў атрад. Потым, калі ўсё скончылася, ён сказаў толькі, што там быў, што было жахліва. Ізноў — болей ні слова. «Дзякуй Богу... — падумалася тады. — Што ж гэта за здзекі — у такое пекла трапіў ЯЕ сын?» Тады здавалася, што нешта можа змяніцца на гэтай вайне. Хай бы змянілася, хай бы скончылася, думала Вольга Мікалаеўна, для якой далёкая зямля Чачні нібыта стаяла перад вачыма.

На парозе быў 1996 год. Перад Новым годам Саша патэлефанаваў дамоў, павіншаваў, сказаў, што здаў сесію. У студзені збіраецца прыехаць, вельмі сумуе — хочацца дадому.

Новы год прынёс новы віток вайны: падзеі ў Першамайскім. Вольга Мікалаеўна прыпала да тэлевізара. Сэрца застукала, калі на экране прамільгнуў нехта вельмі падобны на Сашу. «Не, не,— супакойвала сябе. — Яны не павінны там быць».

У ноч на 16 студзеня 1996 года ёй прысніўся бацька, якога даўно няма. Адчыніў дзверы сівы згорблены стары, а ў хаце ператварыўся ў маладога хлопца. Трывога мучыла сэрца ўвесь дзень.

А потым да хаты пад'ехалі нейкія людзі, і доўга не маглі растлумачыць, што ім трэба. Чамусьці спыталі, адкуль можна патэлефанаваць. Вольга Мікалаеўна іх адправіла да сястры, праз некалькі хат. Яны папрасілі сястру сказаць ёй, што здарылася няшчасце. «Як жа я магу?..» — загаласіла тая. І яны, мужчыны, не маглі знайсці слоў. Прыйшоў маленькі Коля, убачыў іх — і адразу расплакаўся: «Гэта з-за Сашы...»

Сапраўды, як паведаміць маці, якая адна паднімала сына, што яго болей няма? А хто і калі растлумачыць усім маці, на галаву якіх выбухнула гэта вайна, за што адны дзеці страляюць у другіх, таксама чыіхсьці дзяцей? Адзінае, на што здольная ўлада, — выказаць спачуванне. Ды аплаціць пахаванне. Быццам бы можна заплаціць за дзіця. У той аперацыі пад Першамайскім з іх атрада загінула чацвёра хлапцоў. Саша ішоў апошні, прыкрываў групу. Усіх чацвярых адпявалі разам у Палацы культуры МУС у Маскве. Для іх чацвярых зрабілі выключэнне — пахавалі ў дубовых трунах, а не ў цынкавых, як вайскоўцаў.

Усё астатняе для Вольгі Мікалаеўны параўноўваецца з «суровымі вёрстамі вайны». У яе сэрцы пасялілася вайна, калі яна ехала ў Маскву на апошняе спатканне з сынам. Калі заходзіла ў кватэру, дзе ён жыў. Калі кранала яго рэчы, у спешцы кінутыя гаспадаром (вернецца — прыбярэ). Калі знаёмілася з яго сябрамі, якія плакалі разам з ёю. Гэта слёзы разрываліся снарадамі, гэта адчай кулямётнай чаргой грукатаў у сэрцы.

Гора звяло яе з другой жанчынай, якая разам з маці падзяліла сэрца Сашы. Толькі на пахаванні Вольга Мікалаеўна пазнаёмілася з Мар'янай Крысталінскай, пляменніцай вядомай спявачкі, перакладчыцай англійскай мовы. Магчыма, сын рыхтаваў ёй сюрпрыз. Бо колькі разоў дома яна, бывала, заводзіла размовы пра яго будучую сям'ю. А ён толькі жартаваў, маўляў, паспею. «Ты ж не забудзь папярэдзіць нас загадзя, — казала маці. — А то як раптам збярэшся, а мы не паспеем кабанчыка выгадаваць да твайго вяселля». — «Не хвалюйся, мама, з маім вяселлем у вас праблем не будзе».

Так і няма зараз праблем з яго вяселлем. І ніколі не будзе. Засталіся ў памяці сумныя, як бездань, вочы Мар'яны, сціплай, добрай дзяўчыны, так не падобнай на масквічку. Дзве жанчыны маглі пазнаёміцца інакш — у белых святочных сукенках, падчас шумнага застолля сярод родных. А аказаліся звязанымі адной чорнай хусткай. І замест слоў паміж імі ўсё сказалі слёзы. «Я такога хлопца сустрэла ўпершыню», — вымавіла дзяўчына перад маці. Пасля пахавання яна яшчэ прыязджала на яго радзіму. І да яго — на магілу. Сказала, што быццам нешта пацягнула сюды, ці хтосьці паклікаў... Адразу ўзяла білет на цягнік «Масква—Брэст», думала, едзе, каб пазбавіцца ад неспакою. Неспакой яны з маці зноў падзялілі.

Сябры, хлопцы з атрада таксама прыязджалі, шмат у чым дапамаглі Сашавай сям'і. Такія адносіны паміж імі замацаваліся, што стаяць адзін за аднаго да апошняга. І нават пасля. А Сашу, кажуць, усе паважалі, бо не ганарлівы, і характар свойскі. Сябры дапамаглі перавезці яго рэчы дадому, і японскі тэлевізар купілі для сям'і — каб можна было паглядзець жывога Сашу на відэазапісах. І тады, на пахаванні, усё на іх трымалася.

На гэты раз Саша ехаў дадому не на сваёй машыне, як раней. Машына, якая везла яго на радзіму, увесь час ламалася. «Саша не хоча з Масквы ехаць, трымае яго гэты горад»,— тлумачылі ўсе. Магчыма, не хацеў назаўсёды расставацца са сваім шчасцем. А магчыма, такой пакутлівай была гэта дарога, таму што НЕ ТАК ён прывык вяртацца дамоў, не на ТАКУЮ сустрэчу з маці спадзяваўся. Але ён вельмі хацеў дамоў!...

Свая, родная зямля прыняла хлопца ў няпоўныя трыццаць гадоў, які шукаў шчасце ў іншым краі, а страціў жыццё на чужой вайне.

— Гэта сапраўднае злачынства, — кажа Вольга Мікалаеўна.— Бойня, якую нехта выдумаў, а нехта вымушаны выконваць загады, ці то гэта міліцыя, ці то армія. А колькі застанецца няшчасных маці пасля гэтай вайны, якія нараджалі сваіх дзяцей не для вайны, а для жыцця? Я не думала, што гэта можа дакаціцца да нас. Дзе тая Чачня, а дзе Беларусь? Божа, няўжо гэты свет не прыдумаў нічога акрамя гора, каб паяднаць розныя народы?

## КОЛЯ

Маці Сашы Застаўнага глядзіць на малодшага сына Колю, які зараз цягае кепкі і фуражкі брата. Ён яшчэ не ведае, кім хоча стаць. Вольга Мікалаеўна песціць надзею, што ён вырасце і будзе побач, што не паедзе служыць на чужую зямлю, што не апынецца ў пекле бязглуздай вайны. У нас на Беларусі кожнае пакаленне перадае другому адно пажаданне: «Абы толькі не было вайны», бо яе полымя апаліла ўсю нашу гісторыю. Праўда, заўсёды застаецца магчымасць ствараць. Ці зрабіць выбар на карысць Стварэння. Маленькі Коля добра малюе. А яго маці спадзяецца, што захапленне светам захавае яго для творчасці на нашай зямлі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# ХТО ЎРАТУЕ ВУЧЭБНАЕ КНІГАВЫДАННЕ?

У АПОШНІ ЧАС сродкі масавай інфармацыі не ўдзяляюць увагі народнай адукацыі. Калі і з'яўляюцца матэрыялы па адукацыі, то ў асноўным яны закранаюць будучую рэформу школы і ў пэўнай ступені інфармуюць грамадскасць аб дзейнасці Міністэрства адукацыі і навукі. Можна падумаць, што ў такой важнай сферы, якой з'яўляецца сістэма адукацыі, усё ў парадку і няма ніякіх праблем.

А ці так гэта? Не будзем закранаць усіх праблем, возьмем толькі адну, якая датычыцца кнігавыдаўцоў рэспублікі, — школьны падручнік. Менавіта ён усё больш хвалюе Асацыяцыю выдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі. Сёння вучэбнае кнігавыданне знаходзіцца ў крызісным стане.

У чым сутнасць праблемы? У школе шмат чаго можа не быць, але працаваць яна будзе. Аднак існуюць «чатыры кіты», на якіх яна трымаецца. Школа будзе працаваць толькі тады, калі ёсць каго вучыць, каму вучыць, дзе вучыць і на чым вучыць. Калі няма хоць бы аднаго з гэтых «кітоў», то няма і школы. Падручнік і з'яўляецца адным з вельмі важных кампанентаў шырокага арсенала сродкаў навучання. І калі ў ВНУ, тэхнікуме і нават ПТВ яшчэ можна неяк арганізаваць навучанне і без дастатковай колькасці падручнікаў (а сітуацыя ў гэтых навучальных установах менавіта такая ўжо не першы год), то ў агульнаадукацыйнай школе гэта немагчыма.

У адпаведнасці з пастановай урада працэс выпуску падручнікаў да новага навучальнага года павінен завяршыцца да 1 ліпеня. І гэта правільна. Бо патрэбен яшчэ тэрмін для таго, каб апошні падручнік, які выйшаў з паліграфпрадпрыемства, быў дастаўлены ў школу, у тым ліку і ў самую аддаленую, да пачатку навучальнага года.

Цікава ведаць, хто за што адказвае ў гэтым складаным ланцужку забеспячэння падручнікамі школ. Такім чынам, пералік падручнікаў, якія павінны быць падрыхтаваны і выдадзены да кожнага чарговага навучальнага года, зацвярджае Міністэрства адукацыі і навукі. Арганізуе іх падрыхтоўку і экспертную ацэнку Навукова-метадычны цэнтр (НМЦ) вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі і навукі. Ён і з'яўляецца адзіным заказчыкам і плацельшчыкам за выпушчаныя падручнікі, паколькі сродкі на гэтыя мэты ў рэспубліцы цэнтралізаваныя. Падручнікі рэдагуюць і рыхтуюць да друку выдавецтвы, вырабляюць — паліграфічныя прадпрыемствы. Дастаўляюць іх да школ кнігагандлёвыя прадпрыемствы. Такім чынам, у гэтым ланцужку задзейнічаны ўвесь выдавецка-паліграфічны комплекс.

Да 1996/97 навучальнага года ў рэспубліцы павінна быць выдадзена 231 найменне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Да ўстаноўленага ўрадам тэрміну заканчэння гэтай работы засталося два тыдні, а падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў выдадзена толькі 50 працэнтаў.

Што ж адбылося ў гэтым годзе з падручнікамі? Крызіс узнік не сёння, а ўжо ў другой палове 1995 года, калі Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання не мог разлічыцца з выдавецтвамі за выпуск падручнікаў, а з экспедытарскімі арганізацыямі — за іх дастаўку. Прычына ў наш час ужо звыклая — недахват фінансавання. Запазычанасць на 1 студзеня 1996 года склала 40,4 млрд. рублёў. Сума немалая.

Правамерна задаць пытанне: чаму яна ўзнікла і хто ў гэтым вінаваты?

На першы погляд, тлумачэнне простае. Міністэрства фінансаў не прафінансавала ў дастатковай меры Міністэрства адукацыі і навукі, а апошняе не выдзеліла сродкаў НМЦ для разлікаў з выдаўцамі. Але гэта не зусім так. Справа ў тым, што па выніках рэферэндуму 1995 года ўзнікла неабходнасць дапаставіць вялікую колькасць падручнікаў для рускамоўных школ. Але ўся бяда заключалася ў тым, што да гэтага часу практычна ўсе падручнікі для пачатковай школы з беларускай і рускай мовамі навучання былі ўжо выдадзены. Плаціць жа трэба было і за тыя, і за другія. Міністэрства адукацыі і навукі паспадзявалася на тое, што Мінфін выдзеліць дадатковыя сродкі ў суме 24 млрд. рублёў. Замест запланаванай сумы Мінфін выдаткаваў на гэтыя мэты толькі 10 млрд. рублёў. На жаль, Мінадукацыі і навукі ў гэтай сітуацыі пайшло па простым наезджаным шляху, вось і ўзнікла праблема.

Становішча з фінансаваннем вучэбнага кнігавыдання ў 1996 годзе яшчэ больш пагоршылася. Крызісная сітуацыя склалася на стадыі планавання выдзялення сродкаў пры складанні бюджэту. Замест патрэбнай сумы ў 265 млрд. рублёў у бюджэце прадугледжана 177 млрд. рублёў. Але і гэтыя сродкі выдзяляюцца нерэгулярна і не ў тых сумах (за 5 месяцаў з запланаванай сумы ў 74 млрд. рублёў было выдзелена 49,2 млрд. руб.). У выніку выдавецтва «Народная асвета», доля якога ў выкананні дзяржзаказу па выпуску падручнікаў складае 69,3 працэнта, апынулася ў накдаўне. Дзяржаўны камітэт па друку прыклаў нямала намаганняў для таго, каб знайсці крыніцы папаўнення яго абаротных сродкаў і такім чынам падтрымаць рытм выдання падручнікаў. Але яго магчымасці хутка скончыліся. У асобныя перыяды завінавачанасць НМЦ выдавецтву «Народная асвета» дасягала 22 млрд. рублёў, «Белкнізе» — 9 млрд. руб. Аналагічнае становішча ўзнікла з выдавецтвамі «Аракул», «Асар» і інш., якія таксама выконваюць заказ па выданню падручнікаў. Напрыклад, доўг НМЦ выдавецтву «Аракул» на пачатак чэрвеня склаў 2,8 млрд. руб. Цяпер доўг выдавецтвам і кнігараспаўсюджвальнікам за выпушчаную прадукцыю складае 32,3 млрд. руб. Сёння практычна задзейнічаны ўсе сродкі выдавецка-паліграфічнага комплексу. Прадпрыемствы знаходзяцца ў глыбокім крызісе. Ці можна было пазбегнуць такога становішча? Безумоўна, можна. Ясна, што грошай на выданне падручнікаў недастаткова, бюджэт не ў стане прафінансаваць выданне падручнікаў цалкам. Што ж далей? Як пачынаць навучальны год, калі не ўсе падручнікі выдадзены? Што мы патлумачым школьніку? Што яму не далі падручнік, таму што ён не выдадзены? А не выдадзены ён таму, што ў дзяржавы няма грошай? Вучню такога тлумачэння не дасі, не змогуць зразумець гэта і бацькі. Бо яны прывыклі, што ўсё, што трэба для вучобы, у школе павінна быць, і яно было.

Выйсце з тупіковага становішча ёсць. Бо, калі грошай недастаткова, каб выдаць усё і ў патрэбнай колькасці, — значыць трэба ісці па шляху змяншэння пазіцый і тыражоў. Думаецца, што гэта магчыма.

Сёння падручнікі выдаюцца тыражамі з разліку 160 працэнтаў ад колькасці навучэнцаў класа, г. зн. на кожнага вучня выдаецца 1,6 падручніка. Праўда, гэта на 4 гады. Па нейкіх прычынах за гэты час частка кніг выйдзе з абароту. Але не 60 працэнтаў. Падручнік патрэбен настаўніку, метадысту, інспектару, арганізатару народнай адукацыі. Патрэбен ён і ў масавай бібліятэцы. Усё гэта забяспечваецца з тых жа 60 працэнтаў. Але ці не занадта вялікі запас? Думаецца, што так. Можна было абмежавацца і 120 працэнтамі. Эканомія была б немалая.

Ці ўсе падручнікі трэба выдаваць адзін раз у чатыры гады? Бо адна справа, калі вучань падручнікам карыстаецца 6 разоў на тыдзень, і зусім іншая, калі прадмет адзін раз у тыдзень. Фізічны знос падручніка, безумоўна, будзе неаднолькавы. Бязбольна тэрмін жыцця некаторых падручнікаў трэба было б павялічыць на год, два і нават на тры. І гэта дало б значную эканомію сродкаў.

У апошняе дзесяцігоддзе ў школах ужываюцца так званыя паралельныя падручнікі. Настаўнік меў магчымасць выбраць падручнік. Але, улічваючы ўсю складанасць цяперашняга становішча, можна было б часова абмежавацца адным падручнікам, выбраўшы пра гэтым лепшы. І гэта трэба было зрабіць.

З мэтай змяншэння бюджэтнага фінансавання Міністэрства адукацыі і навукі і Дзяржаўны камітэт па друку дамовіліся аб зніжэнні рэнтабельнасці прадпрыемстваў, якія выдаюць кнігі, з 40 да 12 працэнтаў. Гэтыя выдаткі прадпрыемстваў можна было б знізіць, калі б былі прыняты прапановы па падаткаабкладанню ў кнігавыданні. Але ў нас чамусьці не хочуць унікаць у сутнасць праблем, спецыфіку галіны. Прасцей прыняць адзін закон, адно палажэнне для ўсіх.

Не адзін месяц вядзецца спрэчка паміж Дзяржкамдруку і Мінадукацыі і навукі па пытанню экспедзіравання падручнікаў. Як бачым, шляхі для зніжэння выдаткаў на вучэбнае выданне ёсць. Але ўсе гэтыя праблемы трэба вырашаць.

У калідорах улады часцей за ўсё можна чуць прапанову аб тым, каб зусім адмовіцца ад бясплатнага забеспячэння падручнікамі вучняў. Але гэтага рабіць нельга. Па-першае, бацькам гэта «мерапрыемства» наўрад ці спадабаецца па прычыне страты пры ўзроўні сённяшняй зарплаты. Асабліва калі ў сям'і не адзін школьнік. Аўтары такіх прапаноў не ўяўляюць сабе ўсяго ланцужка гэтага працэсу. Бо выдаваць падручнікі штогод прыйдзецца ў 4 разы больш, г. зн. усе і на ўсіх штогод. Спадзявацца на тое, што нехта прадасць іх пасля карыстання, не трэба. Бацькі падручнікі купляць будуць не ў снежні і не ў сакавіку, а, як правіла, перад пачаткам навучальнага года. У гэтым становішчы выдавецтва не зможа 10 месяцаў працаваць на склад і прадаваць падручнікі толькі два месяцы. Такіх абаротных сродкаў ні ў адным выдавецтве няма і не будзе. Вопыт іншых краін былых рэспублік Савецкага Саюза паказвае, што пры такім падыходзе толькі трэць вучняў забяспечваецца падручнікамі.

Трэба вырашаць і праблему выдання падручнікаў для школ, у якіх навучаюцца дзеці з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця. Іх патрэбнасць невялікая: ад 2 тыс. да 300 экз. Кошт падручнікаў пры такіх тыражах будзе вельмі вялікі. Да гэтага часу па гэтаму пытанню ідуць дэбаты аб мове выдання такіх падручнікаў. Цалкам відавочна, што тут пытанне павінна быць вырашана на карысць адной мовы, а не дзвюх. У іншым выпадку кошт аднаго падручніка дасягне астранамічнай лічбы.

Не вырашана ў рэспубліцы і праблема выдання падручнікаў па замежных мовах. У бліжэйшыя 10 гадоў спатрэбіцца падрыхтаваць і выдаць толькі для агульнаадукацыйнай школы больш за 300 вучэбных кніг. Хто гэта будзе рабіць і на якіх умовах, застаецца загадкай.

Сёння школы адчуваюць сапраўдны голад у метадычнай літаратуры. На працягу апошніх гадоў выпуск яе даціраваўся на 50 працэнтаў. З другой паловы 1995 года сродкі на гэтыя мэты не выдзяляюцца, і яе выпуск практычна спыніўся. Адсутнасць фінансавання вучэбнай літаратуры для прафесіянальнай школы прыпыніла яе выпуск. А ў 1993—1994 гг. яе штогадовы выпуск складаў 100—150 пазіцый. Сёння ў выдавецтвах сабралася вялікая колькасць «замарожаных» рукапісаў. Так, напрыклад, выдавецтва «Вышэйшая школа» спыніла работу над 40 рукапісамі, выдавецтва «Універсітэцкае» — па 19 пазіцыях, «Ураджай» — па 25 пазіцыях і г. д. А калі да гэтага дадаць, што выдавецтвы наогул не могуць браць для выдання рукапісы падручнікаў, тыражы якіх малыя, то карціна складваецца зусім гнятлівая. Такіх «адказных» рукапісаў у НМЦ сабралася больш за сотню. Праблема выдання малатыражнай вучэбнай літаратуры для прафесіянальнай школы — не часовая, а сталая. Яе трэба вырашаць. Бо па палове спецыяльнасцей колькасць тых, хто вучыцца ў ВНУ, тэхнікумах і ПТВ, знаходзіцца ў межах 100 чалавек ці крыху больш. Няўжо яны будуць вучыцца без падручнікаў?

Вучэбнае, як, зрэшты, і ўсё кнігавыданне рэспублікі, сёння знаходзіцца ў крытычным стане. Яго трэба ратаваць, і як мага хутчэй. Але хто гэта будзе рабіць? Па прычыне важнасці і складанасці праблемы гэтае пытанне прагучала на канферэнцыі Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў. На наш погляд, зацікаўленыя структуры вызначаны. Справа цяпер за імі.

**Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ,**
**прэзідэнт БелАКК.**

# КАНТРАБАНДНАЯ ГАРЭЛКА ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ НАЦЫІ І БЮДЖЭТУ КРАІНЫ

**З усіх відаў прадпрымальніцкай дзейнасці адным з найбольш прыбытковых на Беларусі застаецца гандаль тытунёвымі вырабамі і спіртнымі напоямі. Таму не дзіва, што гэтую сферу ўзялі пад свой кантроль розныя мафіёзныя групоўкі і цэлая плойма іншых аматараў лёгкай нажывы. У выніку іх незаконнай дзейнасці і без таго небагаты дзяржаўны бюджэт Беларусі недаатрымлівае мільярды рублёў у выглядзе падаткаў, а асобныя грамадзяне, спакусіўшыся таннай кантрабанднай гарэлкай ці спіртам, рызыкуюць сваім здароўем, бо падпольныя прадаўцы, як правіла, рэалізуюць фактычна непрыдатныя для ўжывання напоі.**

**Праўда, адпаведныя органы дзяржаўнай улады апошнім часам вядуць (і небеспаспяхова) актыўную барацьбу з тымі, хто нелегальна пастаўляе падакцызныя тавары і гандлюе імі.**

**Аб гэтым сведчаць і праведзеныя супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (УБЭЗ) спецыяльныя праверкі.**

**Па просьбе карэспандэнта «Звязды» сітуацыю на алкагольна-тытунёвым рынку краіны аналізуе начальнік аддзела УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў Аляксандр ЯЦКОЎСКІ.**

— Выконваючы патрабаванні ўказаў Прэзідэнта ад 20 сакавіка 1995 года № 116 «Аб увядзенні маркіроўкі ўвозімых у Рэспубліку Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў» і ад 2 лютага 1996 года № 45 «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі і захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў» органы ўнутраных спраў краіны сёлета правялі шэраг спецыяльных аператыўных мерапрыемстваў па выяўленню і спыненню фактаў продажу імпартных спіртных напояў і цыгарэт без акцызных марак.

Апроч таго мы ўзялі пад пільны кантроль цэлыя прадпрыемствы і асобныя лініі па вырабу і разліву спіртных напояў. Усяго намі сёлета было праверана больш за 27 тысяч аб'ектаў. Выяўлена 338 злачынстваў, у тым ліку 220 фактаў парушэння парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, 49 фактаў спекуляцыі, 29 фактаў крадзяжу маёмасці, 5 — хабарніцтва, 35 — ажыццяўлення забароненых відаў прадпрымальніцкай дзейнасці. У правапарушальнікаў канфіскавана падакцызных тавараў на суму больш за 20 мільярдаў рублёў, з якіх алкагольных вырабаў — на 10,57 мільярда рублёў, тытунёвых — на 9,65 мільярда рублёў.

Шырока распаўсюджаны зараз і безліцэнзійны гандаль лікёра-гарэлачнымі вырабамі, а таксама іх рэалізацыя без выплаты акцызнага і іншых падаткаў. Напрыклад, 17 мая ў Мінску затрыманы двое грамадзян, якія незаконна прадавалі гарэлку «Русская». Кошт канфіскаваных у гэтых грамадзян спіртных напояў склаў больш за 500 мільёнаў рублёў.

Нам удалося выявіць шэраг маршрутаў нелегальных паступленняў на Беларусь спіртных напояў і цыгарэт, а таксама знайсці месцы іх захоўвання і каналы рэалізацыі.

**— І адкуль жа найчасцей да нас завозяцца кантрабандныя цыгарэты і алкаголь?**

— Апошнім часам назіраецца актывізацыя тытунёва-алкагольных кантрабандыстаў на беларуска-ўкраінскай мяжы. Прычым з Украіны на Беларусь завозяцца не толькі лікёра-гарэлачныя вырабы, але і спірт, які ў нас выкарыстоўваецца для вытворчасці гарэлкі на падпольных лініях.

Прывяду толькі некалькі самых «свежых» фактаў затрымання буйных партый падакцызных тавараў, якія незаконна былі завезены на Беларусь.

4 мая гэтага года ў Мінску быў затрыманы грузавік «Мерседэс» Тырасапальскай камерцыйнай фірмы «Тыркс». У кузаве аўтамабіля знаходзілася 64 тысячы бляшанак гарэлкі «Петров» агульным коштам больш за 500 мільёнаў рублеў. Як выявілася, гарэлка была правезена па фальшывых дакументах. Між іншым, груз гэты правозіўся пад аховай: у аднаго з суправаджальнікаў быў канфіскаваны пісталет.

23 мая супрацоўнікамі Хойніцкага РАУС былі затрыманы чацвёра грамадзян нашай краіны, якія нелегальна перавозілі з Украіны 27.500 пачкаў імпартных цыгарэт.

У той жа дзень у пасёлку Алесіна Смалявіцкага раёна ў складскім памяшканні фірмы «Арском» работнікі праваахоўных органаў выявілі і канфіскавалі партыю амерыканскіх цыгарэт без акцызных марак на суму больш за 400 тысяч долараў.

30 мая аператыўнай групай МУС Беларусі ў Столінскім раёне выяўлена некалькі кантрабандыстаў і падпольных гандляроў спіртнымі напоямі. Канфіскавана 5200 літраў гарэлкі «Нікольская».

Хачу адзначыць, што кантрабандныя алкагольныя вырабы, якія завозяцца ў нашу краіну з суседніх дзяржаў, маюць вельмі дрэнную якасць. Большасць з іх наогул непрыдатная для ўжывання.

Так што перад аматарамі таннага кантрабанднага спіртнога паўстае амаль гамлетаўскае пытанне: піць альбо не піць?

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*Міхаіл ХВАСТОЎ:*

# «УЗЯТЫ ЯШЧЭ АДЗІН БАР'ЕР НА ШЛЯХУ Ў ЕЎРАПЕЙСКУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ»

**Чарговы брыфінг з журналістамі правёў намеснік міністра замежных спраў Міхаіл ХВАСТОЎ.**

Ён пракаменціраваў факт уступлення Беларусі ў параўнаўча новую міжнародную арганізацыю — Цэнтральнаеўрапейскую ініцыятыву. Разам з нашай дзяржавай у яе былі прыняты яшчэ Албанія, Балгарыя, Румынія, Украіна.

Гэта арганізацыя была створана ў 1989 годзе па ініцыятыве Італіі. Па словах М. Хвастова, гэта нават і не арганізацыя, а хутчэй аб'яднанне дзяржаў, і спачатку ў яго ўваходзілі Італія, Аўстрыя, Венгрыя, Югаславія. Потым да іх далучыліся Славенія, Харватыя, Боснія, Герцагавіна, Македонія, Чэхія, Славакія. Усяго ў Ініцыятыве, такім чынам, да апошняга часу налічвалася 10 членаў. Цяпер — 15.

З 1994 года Беларусь удзельнічала ў гэтай арганізацыі ў якасці асацыіраванага члена, што дазволіла бліжэй пазнаёміцца з практычнай дзейнасцю Ініцыятывы, яе задачамі і мэтамі. А яны былі ў рэчышчы нашых імкненняў. Напрыклад, садзейнічанне краінам, якія жадаюць стаць членамі Еўрапейскага саюза, супрацоўніцтва ў рэфарміраванні эканомікі і г. д.

Карацей кажучы, гэта арганізацыя з'яўляецца своеасаблівым мостам паміж Захадам і Усходам. І Беларусь пры належным падыходзе можа з вялікай карысцю выкарыстаць для сябе членства ў гэтай арганізацыі.

Акрамя таго, па ацэнцы М. Хвастова сам факт прыняцця Беларусі ў Цэнтральна-еўрапейскую ініцыятыву сведчыць і аб пераадоленні нашай дзяржавай яшчэ аднаго бар'ера на шляху інтэграцыі ў Еўрапейскую супольнасць.

Няпроста ішло наша ўступленне ў гэту арганізацыю, але падтрымка Аўстрыі і Польшчы садзейнічала прыняццю станоўчага рашэння.

Гэта ў пэўным сэнсе дасягненне для Беларусі. Бо ў апошні час у нас з міжнароднымі арганізацыямі адносіны складваюцца не заўсёды добра. Так, Савет Еўропы прыпыніў наша далучэнне да шэрага канвенцый гэтай аўтарытэтнай і ўплывовай арганізацыі па прычыне таго, што там, у Страсбургу, як выказаўся М. Хвастоў, недастаткова зразумелі тэкст дагавора аб стварэнні Супольнасці Беларуссю і Расіяй. Потым МЗС рэспублікі прыйшлося пераконваць супрацоўнікаў Савета Еўропы ў тым, што Беларусь застаецца незалежнай і падпісанне дагавора з Расіяй аб Супольнасці не ўшчамляе нашага суверэнітэту.

Толькі ўдалося «зняць» гэта непрыемнае для нас пытанне, як узнікла новае — на гэты раз з Еўрапейскім саюзам. Пэўныя ў Заходняй Еўропе сілы запатрабавалі прыпыніць уступленне ў сілу часовага гандлёвага пагаднення Беларусі з ЕС. Прычына — парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Гэта рашэнне камісіі па міжнародных справах Еўрапарламента М. Хвастоў назваў непаслядоўным. Бо нас напярэдадні прынялі ў Цэнтральна еўрапейскую ініцыятыву, якая менавіта і была створана для паступовай ліквідацыі розных непаразуменняў паміж ЕС і новымі незалежнымі дзяржавамі. І раптам узводзіцца штучны бар'ер. На думку М. Хвастова, падобнае рашэнне не прынясе карысці ні для Беларусі, ні для Еўрапейскага саюза.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*Уладзімір АРАХОЎСКІ:*

# Нягледзячы на ўсе цяжкасці, сістэма аховы здароўя вырашае пастаўленыя задачы

***Штогод 16 чэрвеня медыкі многіх краін свету адзначаюць сваё прафесіянальнае свята — Дзень медыцынскага работніка. Рыхтуюцца да ўрачыстасцей з гэтай нагоды і на Беларусі. З чым прыйшлі беларускія медыкі да гэтага асаблівага для іх дня? Якіх вышынь дасягнулі? Ці ёсць ім чым ганарыцца? З гэтымі і некаторымі іншымі пытаннямі карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да першага намесніка міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Уладзіміра АРАХОЎСКАГА.***

— Карыстаючыся магчымасцю, я хачу адразу павіншаваць са святам і выказаць вялікую ўдзячнасць усім тым, хто працуе або працаваў у галіне медыцыны, за іх самаадданую працу, высокі прафесіяналізм, дабрыню і цярплівасць, якія яны захавалі, нягледзячы на сацыяльна-эканамічныя цяжкасці, складаныя ўмовы нашага жыцця.

Эканамічны крызіс, які пацягнуў за сабой рэзкае зніжэнне жыццёвага ўзроўню пераважнай большасці насельніцтва краіны, і эканамічная сітуацыя, што склалася сёння ў рэспубліцы, не маглі не паўплываць на здароўе нашых грамадзян. Працягваюцца негатыўныя тэндэнцыі да пагаршэння дэмаграфічных паказчыкаў і стану здароўя насельніцтва. За апошнія пяць гадоў смяротнасць насельніцтва ўзрасла на 17,5 працэнта, натуральны прырост мае адмоўную накіраванасць. Адзначаецца пагаршэнне паказчыкаў здароўя дзяцей, жанчын рэпрадуктыўнага ўзросту. Адбываецца старэнне грамадства з нарастаннем звязанай з гэтым паталогіі. У такіх няпростых умовах дзейнасць усёй сістэмы аховы здароўя накіравана на захаванне даступнай медыцынскай дапамогі насельніцтву. Аднак на гэтым шляху паўстае шэраг праблем, галоўная з якіх — недастатковае фінансаванне.

**— Колькі грошай сёння не хапае для стабільнага функцыянавання галіны?**

— Бюджэт аховы здароўя на бягучы год вызначаны ў суме 10 трыльёнаў 170 мільярдаў рублёў, што складае толькі 70 працэнтаў ад неабходнага. Установы аховы здароўя пастаянна знаходзяцца ў становішчы даўжнікоў з-за набытых у доўг медыкаментаў, прадуктаў харчавання, выкарыстаных камунальных паслуг. Заработную плату медработнікам шэрага рэгіёнаў выплачваюць з затрымкай на 5—40 дзён. У гэтым годзе штомесячны прырост запазычанасці галіны склаў каля 20 працэнтаў, у цэлым яна ўзрасла з 51,3 млрд. рублёў (па стану на 1.01.95 года) да 360,6 мільярда (па стану на 1.01.96 года). Такі расклад спраў негатыўна ўплывае на функцыянаванне ўсёй сістэмы аховы здароўя: няма сродкаў для падтрымання на належным узроўні матэрыяльна-тэхнічнай базы лячэбна-прафілактычных устаноў, у выніку чаго парушаны лячэбна-дыягнастычны працэс, экстранныя аперацыі пераважаюць над планавымі, не заўсёды хворыя могуць набыць неабходныя лекавыя сродкі з-за іх адсутнасці ў дзяржаўных аптэках, крайняя зношанасць санітарнага транспарту ўскладняе своечасовае аказанне неадкладнай дапамогі і г. д.

**— Якое выйсце існуе з гэтай сітуацыі?**

— У такіх умовах дзейнасць сістэмы аховы здароўя накіравана ў першую чаргу на эканомію і больш рацыянальнае выкарыстанне рэсурсаў. У мінулым годзе было скарочана 1059 ложкаў, частка ложкаў пераведзена на рэжым дзённага знаходжання хворых, праведзена скарачэнне штатнай колькасці персаналу з месячным фондам заработнай платы ў суме 3,2 млрд. рублёў, скарочана колькасць работнікаў апарату кіравання з месячным фондам зарплаты ў 1,1 млрд. рублёў, практыкавалася скарачэнне па графіку на перыяд летніх водпускаў участковых бальніц і аддзяленняў у лячэбна-прафілактычных установах...

**— Куды ні кінь, паўсюль рост доўгу, захворванняў, смяротнасці, скарачэнне штатаў, ложкаў, фінансавання... Няўжо ўсё сапраўды так кепска?**

— Не зусім. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, у цэлым сістэма аховы здароўя вырашае пастаўленыя задачы. Аб'ёмы дапамогі насельніцтву не зніжаюцца, не памяншаецца колькасць шпіталізаваных у стацыянары. Паказчыкі дзіцячай смяротнасці, які ў высокай ступені адлюстроўвае ўзровень аховы здароўя, на працягу некалькіх гадоў ніжэйшыя, чым у іншых дзяржавах Садружнасці (на 33,3 працэнта ніжэй, чым у Расійскай Федэрацыі). У мінулым годзе значна знізілася мацярынская смяротнасць, адзначаецца зніжэнне пасляаперацыйнай лятальнасці. Памяншаецца колькасць захворванняў на коклюш, мінінгіт, слупняк, на краснуху, вірусны гіпатыт.

Дасягнуты пэўныя поспехі ў аснашчэнні сучасным абсталяваннем буйнейшых лячэбна-прафілактычных устаноў рэспублікі. Працягваецца фарміраванне новага заканадаўства па ахове здароўя, арыентаванага на новую сацыяльна-эканамічную сітуацыю. Зробленыя захады пакуль дазваляюць падтрымліваць стабільнае функцыянаванне галіны і развіваць яе прыярытэтныя накірункі.

**— Уладзімір Міхайлавіч, падчас сваіх выступленняў міністр аховы здароўя неаднаразова гаварыла пра неабходнасць рэфарміравання галіны. Больш таго, часткова рэформы ўжо пачаліся. У якім накірунку праводзіцца рэфарміраванне сістэмы аховы здароўя? Наколькі верагодны пераход аховы здароўя на платную аснову?**

— У сваёй канцэпцыі рэфарміравання галіны Міністэрства аховы здароўя намагаецца захаваць даступную сістэму аказання медыцынскай дапамогі. Крызіс фінансавання патрабуе пэўнага рэгулявання і скарачэння льгот і бясплатнасці ў сістэме аховы здароўя. З другога боку, трэба абараніць найменш сацыяльна абароненыя групы насельніцтва. Больш мэтазгодна скараціць гарантаваны аб'ём бясплатнай медыцынскай дапамогі, чым чакаць разбурэння ўсёй сістэмы аховы здароўя з-за адсутнасці сродкаў на яе ўтрыманне. У дадзеным становішчы не абысціся без пашырэння пазабюджэтных крыніц фінансавання (платныя медыцынскія паслугі, выкананне работ па дагаворах з прадпрыемствамі і арганізацыямі, здача ў арэнду памяшканняў, развіццё добраахвотнага страхавання і г. д.). Як паказаў вопыт Расіі, увядзенне абавязковага медыцынскага страхавання — складаны і доўгі працэс, да якога ахова здароўя і эканоміка Беларусі пакуль не гатовы. Прынятыя ў іншых краінах сістэмы аховы здароўя, пры ўсёй іх разнастайнасці, як правіла, складаюцца з розных варыянтаў арганізацыі і фінансавання. У перспектыве непазбежная шматукладнасць і ў сістэме аховы здароўя Беларусі. Пры гэтым неабходны дзяржаўныя гарантыі фінансавання аховы здароўя пад пэўныя праграмы і прыярытэтныя накірункі. Неабходна прыняць меры па ўдасканаленню сістэмы працы медыцынскіх работнікаў.

З мэтай стварэння рынку медыцынскіх паслуг, лекавых прэпаратаў, медыцынскай тэхнікі мэтазгодна паэтапнае раздзяржаўленне прадпрыемстваў і ўстаноў аховы здароўя. Міністэрствам аховы здароўя падрыхтаваны законы «Аб медыцынскіх установах», «Аб медыцынскіх работніках», «Аб лекавым забеспячэнні» і інш., якія павінны быць прыняты Вярхоўным Саветам. Неабходна зацвердзіць прапанаваную Міністэрствам аховы здароўя праграму па фарміраванню ў насельніцтва здаровага ладу жыцця і г. д.

Асобна трэба зазначыць, што жывём мы і працуем у цяжкі для краіны час, у складаных умовах. У многім якасць медыцынскай дапамогі насельніцтву залежыць ад сумленнага стаўлення медыкаў да сваёй працы. Людзям, якія працуюць у сістэме аховы здароўя, трэба пераадолець шмат цяжкасцей, праявіць вялікае цярпенне, вытрымку, прафесіяналізм, каб вывесці галіну з крызісу. Я хачу яшчэ раз павіншаваць усіх медыцынскіх работнікаў з іх прафесіянальным святам і пажадаць ім і іх сем'ям творчых поспехаў, дабрабыту, шчасця і ўсяго добрага, светлага ў гэты нялёгкі для іх час!

**Гутарку вёў Сяргей ПРОТАС.**

*ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!*

# Ліцэй пры БДУ. Хоць бы год пратрымацца...

**Заўсёды, прызнацца, з радасцю наведваюся ў ліцэй пры Белдзяржуніверсітэце. Прычына таму найгалоўнейшая: сама атмасфера, сама прастора, само паветра цягнуць у сапраўдны палон. Дадаў бы яшчэ: у вір асветы, у вір ведаў. Яно і зразумела, бо дзеці ў ліцэі вучацца адметныя. Перш, чым прыйсці сюды, праходзяць складаны экзаменацыйны адбор. Падзівіцца можна і своеасабліваму тэставаму экзамену. Кожнаму абітурыенту даводзіцца адказаць болей як на сотню пытанняў. Якія ж выключныя факты-прыметы адметнасці ліцэя пры БДУ? Па-першае, літаральна ўсе яго выпускнікі паступаюць у найбольш прэстыжныя ВНУ краіны. Штогод ліцэісты — пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд па самых розных прадметах. Займаюцца юнакі і дзяўчаты і навукова-даследчыцкай працай. Кожны навучальны год ліцэісты праводзяць навуковыя канферэнцыі, на якіх выступаюць з самымі грунтоўнымі дакладамі. Паверце, што ні даклад — заяўка на сур'ёзную навукова-даследчую працу. Прыклады можна доўжыць.**

Але, назіраючы за ліцэем, расказваючы пра яго клопаты, нельга не заўважыць наступнае. Выключнасцю вызначаецца і памяшканне ліцэя БДУ. Завітайце на вуліцу Маякоўскага. Знайдзіце зялёны двухпавярховы будынак. Упэўнены, у Мінску цяжка нават школу падобную знайсці. Праўда, трэба аддаць даніну павагі кіраўніцтву і педкалектыву. Знутры ліцэй выглядае ніштавата. Марафет тут можна назіраць не толькі на пачатку навучальнага года, але і напрыканцы, у маі, калі ўжо звычайна відаць усе хібы — старыя і новыя. Ды толькі трэба выслухаць настаўнікаў, ліцэістаў, самога дырэктара, каб ведаць, якой цаной дасягаецца гэты прыстойны выгляд. Якія выбрыкі можа выкінуць каналізацыя. Трэба, мусіць, станам ліцэйскага водаправода закладкі 1937 года пацікавіцца і ў мясцовага сантэхніка. Ён толькі і робіць, што затыкае дзіркі ў трубах. Дадайце сюды і дах, які пастаянна цячэ, прагнілую падлогу. Словам, памяшканне — аварыйнае.

Ужо не аднойчы пажарная ахова, санітарна-эпідэміялагічная служба збіраліся зачыніць ліцэй. І ў прынцыпе рашэнне было б правільным. Іншая справа, куды дзявацца вучням? Хаця і навучальны працэс у існуючых умовах нельга назваць паўнакроўным. Вы, напружыўшы сваю памяць, можаце ўявіць заняткі па хіміі без эксперыментаў, а значыць — без поўных ведаў? Наўрад ці. Бо і ў самай далёкай вясковай глыбінцы вучні эксперыментавалі, рабілі доследы. Ліцэістам, здольным на многія адкрыцці, даводзіцца зрэдку эксперыментаваць хіба што ў аўдыторыях самога Белдзяржуніверсітэта.

Сітуацыю з памяшканнем ліцэя пры БДУ добра ведаюць і ў Міністэрстве адукацыі і навукі. Параўнальна нядаўна было прынята рашэнне калегіі міністэрства аб перспектыўнай перадачы будынка па вуліцы Ульянаўскай (дом нумар 8) ліцэю пры БДУ. Нагадаем чытачам, што маецца на ўвазе Дом настаўніка, добра вядомы зараз педагогам ці не ўсяе Беларусі. Зараз на Ульянаўскай знаходзіцца Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі. Для гэтага інстытута завяршаецца будаўніцтва новага корпуса па вуліцы Бяды беларускай сталіцы. Праўда, згодна з папярэднім планам, будаўніцтва павінна было завяршыцца напрыканцы сёлетняга года. Але ж рэаліі заўжды аказваюцца больш жорсткімі, чым нашы ўяўленні. Характар фінансавання новабудоўлі пераконвае: будаўніцтва, відаць, расцягнецца яшчэ як мінімум на год. І добра будзе, калі толькі 1 верасня 1997 года інстытут выселіцца з Дома настаўніка. Так што пярэбараў давядзецца пачакаць.

А тое, што Дом настаўніка — выключна прыдатнае памяшканне для ліцэя, спрыяльнае для яго развіцця, у гэтым няма ніякіх сумненняў. Вось і Генадзь Уладзіміравіч Пальчык заўважае з гэтай нагоды:

— Па-першае, я вельмі ўдзячны калегіі міністэрства за прынятае рашэнне. У ім, мне думаецца, адлюстраванне ацэнкі нашай працы за ўсе нялёгкія шэсць гадоў існавання, спадзяванне на пашырэнне перспектыў у развіцці ліцэя. Мы проста вымушаны будзем узняцца на новы якасны ўзровень у сваёй штодзённай працы. Акрамя таго, хацеў бы падкрэсліць і наступную акалічнасць. Дом настаўніка змог бы больш выразна акрэсліць ужо існуючае цеснае супрацоўніцтва па пытаннях метадалогіі адукацыі і методыкі выкладання. Мы перакананы, што ёсць рэальная магчымасць стварыць своеасаблівы цэнтр па рабоце з таленавітымі дзецьмі.

Ідэя, выказаная Генадзем Уладзіміравічам Пальчыкам, як ніякая іншая, патрабуе, на наш прыватны погляд, пільнай дзяржаўнай увагі. Магчыма, пытанне аб стварэнні такой арганізацыі або цэнтралізацыі ў рабоце з юнымі ньютанамі і ламаносавымі будзе ўпісана асобным радком у прэзідэнцкую праграму па падтрымцы таленавітай моладзі.

— Гаворачы пра будучы цэнтр, — працягвае дзяліцца сваімі развагамі дырэктар ліцэя, — я маю на ўвазе «гарызантальную» структуру. Што гэта значыць? Найперш — зносіны, кантакты настаўнікаў-прадметнікаў, метадыстаў, выкладчыкаў ВНУ, навуковых супрацоўнікаў, якія маюць справу са зместам адукацыі ў школе і займаюцца праблемамі бесперапыннай адукацыі школа—ВНУ. І для сталіцы, і для ўсяе краіны — гэта метадычны цэнтр, дзе больш цесна змогуць супрацоўнічаць настаўнікі і вучні не толькі ў сферы навучальнай дзейнасці, але ж і ў галіне пазакласнай работы па прадметах: турніры юных, алімпіяды, навуковыя канферэнцыі. Цяжка, напрыклад, пераацаніць такую навукова-практычную канферэнцыю, удзел у якой прымаюць настаўнікі і вучні.

Безумоўна, ідэі, выказаныя дырэктарам ліцэя Генадзем Уладзіміравічам Пальчыкам, вартыя ўвагі. Навучальная ўстанова, якую ён узначальвае, носіць (у добрым сэнсе гэтага слова) элітарны характар. Неаднойчы такую характарыстыку ліцэю даваў і міністр адукацыі і навукі Васіль Іванавіч Стражаў. Магчыма, з часам ліцэй стане аб'яднальным і ў наступным плане: чаму б, напрыклад, не звесці разам намаганні па падрыхтоўцы школьнікаў да вучобы ў ВНУ?

... Але ўсе гэтыя задумкі, меркаванні патрабуюць практычных намаганняў. Патрабуюць тэрыторыі. Відавочна, што для ліцэя пры БДУ на наступны навучальны год яна застаецца ранейшай. Магчыма, у такім разе Міністэрствам адукацыі і навукі будзе аказана самая рашучая фінансавая падтрымка ў правядзенні сур'ёзнага рамонту летам. Ліцэістам хоць бы год пратрымацца...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**P.S. Спадзяванне на тое, што ліцэй пратрымаецца год у старых сценах, ёсць. Ужо хаця б таму, што сітуацыю з умовамі існавання элітарнай навучальнай установы добра ведаюць у Міністэрстве адукацыі і навукі. Напрыканцы навучальнага года ліцэй наведаў міністр Васіль Іванавіч і сам пераканаўся, што слёзы ў ліцэістаў не вымучаныя, а сапраўдныя. Міністр адукацыі і навукі паабяцаў сёлетні рамонт, а пасля і перасяленне ліцэя ў новае памяшканне.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...НАВЕДАЦЬ РАНІШНІК У ДЗІЦЯЧЫМ САДКУ

Здавалася б, якія цяпер могуць быць ранішнікі! Веснавыя святы даўно ўжо скончыліся, а да асенніх яшчэ далёка. Ды не — аказалася, што цяпер самая пара святаў для вялікай колькасці старэйшых хлапчукоў і дзяўчынак: сёлета яны развітваюцца са сваім родным садком і ідуць на прыступку вышэй — у школу. Для чалавечкаў, якія правялі ў садку па тры-чатыры гады, гэта сапраўды падзея!

Адшукаць садок, у якім цяпер праводзіўся б ранішнік з нагоды завяршэння «садковай адукацыі», аказалася цяжка, бо такія мерапрыемствы звычайна праводзяцца напярэдадні лета — у канцы мая, пакуль не распачалася адпускная кампанія і пакуль бацькі разам з дзеткамі не раз'ехаліся хто куды — у вёску да сваякоў, у адпачынак на нейкую турбазу і г. д. А хто-ніхто са збяднелых цяпер бацькоў забраў дзяцей зараней, каб зэканоміць за ўтрыманне ў садку ажно за тры летнія месяцы (плата за садок, вядома ж, вельмі і вельмі «кусаецца»!), калі ёсць надзейныя «тылы» ў выглядзе бабулек і дзядуль.

Каб адшукаць такі ранішнік цяпер, у сярэдзіне чэрвеня, прыйшлося звярнуцца па дапамогу да знаёмай загадчыцы садка. Але аказалася, што ў яе садку, на мой вялікі жаль, такі ранішнік ужо адбыўся. Патэлефанавала яна тром-чатыром сваім сяброўкам-калегам... Знайшла ўсё ж такі!

Паехаў я ў адзін з новых мікрараёнаў Мінска — у Малінаўку. Прыйшоў у садок. Павітаўся. Пасля вядомага трагічнага здарэння ў мінскім садку № 511 кожнага мужчыну тут сустракалі вельмі і вельмі падазронымі позіркамі. Гэта і зразумела, бо толькі пасля вельмі сур'ёзнага здарэння ў іншым месцы сям-там прымаюць хоць нейкія меры перасцярогі.

Ранішнік (хоць ён так звычайна называецца) пачаўся пад вечар, а 16-й гадзіне. Быў ён, калі можна так сказаць, звычайны, традыцыйны, без навагодняй, сакавіцкай ці іншай тэматыкі. Дзеткі спявалі хорам і паасобку, танцавалі, чыталі вершы, вадзілі карагоды. Свежаму чалавеку кідалася ў вочы, што сярод дзяцей ёсць т. зв. развітыя і не вельмі, раскаваныя і сарамлівыя, любімчыкі і зусім наадварот — для супрацоўніц садка. Жыццё ёсць жыццё! Беларускае слова, дарэчы, практычна не гучала. Хіба што ў дарослых у выглядзе сумна вядомай «трасянкі». Выхавацелькі, музкіраўнікі, «фізкультурніцы» і г. д. наладзілі нейкія гульні для дзяцей і дарослых. Апошнія, дарэчы, былі вельмі неактыўныя, калі не сказаць, рахманыя ў гэтых гульнях. У адрозненне ад дзяцей, якія адчувалі сябе больш натуральна ў гульнявой абстаноўцы. Потым дзецям уручылі сякія-такія перадшкольныя падарункі.

Дзень хіліўся да завяршэння. Больш-менш нецярплівыя бацькі пaглядалі на гадзіннікі, а яшчэ больш нецярплівыя сілком цягнулі дзетак дахаты, але тым вельмі не хацелася ісці, бо рэдка, асабліва ў такім узросце, выпадаюць святочныя дні. Многія бацькі, аказваецца, ведалі, што да чаго (асабліва з т. зв. групы падрыхтоўкі). Нарэшце, абвясцілі салодкі стол для дзетак. Ён быў сапраўды салодкі! З самымі рознымі прысмакамі — тарты, пірожныя, экзатычная і мясцовая агародніна, фрукты, цукеркі, пячэнне... Усяго было навалам... Нездарма ж пастараліся бацькі, нават тыя, для каго ўклад ва ўсеагульнае вяселле быў занадта цяжкім грузам на сямейны бюджэт — 80—100 і больш тысяч. Напомню, што такое сёння мінімальная заработная плата. Але чаго не зробіш дзеля дзетак!

А завяршыўся ранішнік, як у любым вытворчым калектыве, які сам сябе паважае, звычайным застоллем. Тут я толькі зразумеў, чаму т. зв. ініцыятыўная група бацькоў вяла сябе спакойна і цярпліва чакала гэтага завяршэння свята. Мушу сказаць — разгульнай п'янкі не было, бо гарэлкі, шампанскага, лікёру, розных вінаў было, так сказаць, у меру, калі такое слова падыходзіць да звычайнага ранішніка ў дзіцячым садку. Супрацоўніцы садка, бацькі і частка застаўшыхся дзяцей весяліліся за адным вялікім па плошчы, але не па вышыні ад падлогі сталом, на нізенькіх крэсліцах, з дзіцячымі кубачкамі, шкляначкамі, сподачкамі і іншым посудам. З зусім не дзіцячай закускай у выглядзе нялёгкіх нават для дарослага страўніка селядцоў, бутэрбродаў і іншых чыста дарослых прысмакаў. А потым былі танцы... Для дарослых. У прысутнасці і з удзелам іх жа дзетак...

Увечары я пазваніў сваёй знаёмай загадчыцы дзіцячага садка. Яна спытала, а ці дабыў я ранішнік да канца. І па той прыкмеце, што язык у мяне не вельмі слухаўся, зразумела, што так, дабыў. «У нашых садках, — сказала яна, — гэта даўно ўжо звыклая справа. Як у любым вытворчым калектыве... Толькі ты, калі ласка, не афішыруй яе».

Гэтыя свае нататкі я лічу як справаздачу не толькі перад сваім газетным начальствам, але і перад жонкай — чаму я прыйшоў з дзіцячага ранішніка «пад градусамі». Мяркую, што яны мяне правільна зразумеюць.

**Валянцін НАЛІМАЎ.**

## ПРЫ РАЗЛІКУ ПРАЦЯГЛАСЦІ ВОДПУСКУ СУБОТЫ НЕ ЎЛІЧВАЮЦЦА

*Я працую ў бюджэтнай арганізацыі. Па закону маю 24 рабочыя дні водпуску. Пытанне першае: на падставе якога дакумента пры разліку працягласці водпуску суботы лічацца рабочымі днямі?*

*Пытанне другое. Ці маем мы права ў калектыўным дагаворы запісаць, што пры разліку працягласці водпуску суботы лічыць нерабочымі днямі?*

**КЛЮЧНІК І.С., г. Вілейка.**

З-за адсутнасці цяпер рэспубліканскага заканадаўства, якое дапаўняе і канкрэтызуе КЗаП, працягваюць прымяняць асобныя нормы актаў былога СССР.

Пастановай Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па пытаннях працы і заработнай платы і Прэзідыума ВЦСПС № 180/П-10 ад 8 красавіка 1967 г. зацверджана тлумачэнне № 4/П-10 "Аб некаторых пытаннях, звязаных з пераводам рабочых і служачых прадпрыемстваў, установ і арганізацый на пяцідзённы рабочы тыдзень з двума выхаднымі днямі".

Частка 2 п. 4 гэтага акта растлумачвае, што за кошт другога дня адпачынку ў тыдзень (суботы) працягласць водпуску не павялічваецца (калі не супадае са святочнымі днямі). Пры вылічэнні працягласці водпуску ў рабочых днях іх колькасць павялічваецца за кошт нядзель і святочных дзён, што прыпадаюць на перыяд водпуску (Правілы аб чарговых і дадатковых водпусках ад 30.04.30 г.).

У калектыўным дагаворы могуць быць уведзены новыя віды дадатковых водпускаў ці абумоўлена павелічэнне працягласці прадугледжаных заканадаўствам дадатковых водпускаў, але не за кошт субот, таму што гэта супярэчыла б працоўнаму заканадаўству.

## ЦІ ПРАДУГЛЕДЖАНА ЛЬГОТА ПА ЗЯМЕЛЬНАМУ ПАДАТКУ ДЛЯ МНАГАДЗЕТНЫХ СЕМ'ЯЎ?

*Раней наша сям'я мела льготы пры аплаце падатку за зямлю, паколькі ў нас 3 дзяцей. Але старэйшай дачцэ споўнілася 18 гадоў і яна вучыцца на 2 курсе Дзяржаўнага педуніверсітэта. Дзяцей я выхоўваю адна, таму што бацька памёр. Ці маю я права на льготы падатак да заканчэння вучобы дачкі? Буду вам вельмі ўдзячная, калі атрымаю адказ.*

**З павагай МАТУСЕВІЧ Людміла Іванаўна.**

Апошнімі змяненнямі Закона РБ "Аб плацяжах за зямлю" ільготы для катэгорыі грамадзян, якія маюць мнагадзетныя сем'і (3 і больш дзяцей), па аплаце падатку не прадугледжаны.

Таму права на льготу ў адпаведнасці з Законам РБ "Аб плацяжах за зямлю" ваша сям'я не мае.

## ПАВЫШЭННЕ ПЕНСІІ ДОНАРАМ

*Я атрымліваю пенсію па інваліднасці II групы. Маю ўзнагароду "Ганаровы донар СССР". Даведалася, што маецца надбаўка да пенсіі 10 працэнтаў. Але мне ў райсабесе адказалі, што надбаўка даецца толькі да пенсіі па старасці, я жа на гадах не належу да яе. Ці так гэта?*

**Н. КАМЧЫЦКАЯ, в. Варыльна Гродзенскай вобласці Астравецкага раёна.**

Закон РБ ад 03.12.95 г. "Аб донарстве крыві і яе кампанентаў" прадугледжвае для донараў, узнагароджаных знакам "Ганаровы донар рэспублікі Беларусь" павышэнне пенсіі на дасягненні пенсіённага ўзросту ў памеры 10 працэнтаў. Пры гэтым донары, узнагароджаныя знакам "Ганаровы донар СССР" карыстаюцца ўсімі льготамі, прадастаўленымі донарам, якія маюць знак "Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь".

## АДНА ПАРА НА ГОД

*Я інвалід I групы па агульнаму захворванню, ампутавана частка нагі, маю іншыя захворванні. Мяне цікавіць такія пытанні: на які тэрмін выдабляецца пратэз нагі і абутак і праз колькі гадоў выдаюць палачку і мыліцы?*

**З павагай АБРАМОВІЧ Іван Іванавіч, Рагачоўскі раён.**

**Адказвае на пытанні начальнік аддзела па справах інвалідаў Міністэрства сацыяльнай абароны Леанід Кліменка.**

Пратэз нагі вырабляецца на два гады. Палачку і мыліцы інваліды могуць атрымаць таксама раз у два гады. Пры наяўнасці заключэння ўрача інваліды па агульнаму захворванню забяспечваюцца бясплатна адной парай абутку кожны год, інваліды Вялікай Айчыннай вайны — двума парамі штогод. Безумоўна, адной пары абутку недастаткова. Есць магчымасць купіць. Але кошт такога тавару даволі высокі — каля 1 мільёна рублёў.

## КОЛЬКІ ПРАЦУЮЦЬ ЗА МЯЖОЙ?

*Паспрачаліся з сябрам накont таго, колькі складае рабочы час ва ўстановах Францыі: 8 гадзін ці 9. Не маглі б вы вырашыць нашу спрэчку, а заадно расказаць пра рабочы час і ў іншых краінах.*

**Пётр Р., г. Ліда.**

Ва ўстановах Францыі, у прыватнасці ў Парыжы, праца доўжыцца з 9 гадзін раніцы і да 17. Такім чынам, меў рацыю той, хто «галасаваў» за 8-гадзінны рабочы час. Што датычыцца іншых краін, то, згодна з данымі, якія ў нас маюцца, у Бельгіі ва ўстановах рабочы час доўжыцца з 9 гадзін да 17, у Вялікабрытаніі — з 9 да 17/18, у Германіі — з 8 да 12 і з 13 да 16, у Італіі — з 8.30 да 18.30, у Кітаі — з 8 да 19, у Паўднёвай Карэі — з 9 да 18, у ЗША — з 8.30 да 17, у Тайвані — з 8.30/9.00 да 17.30/18.00, у Тайландзе — з 8.30 да 17, у Японіі — з 8.30/9.00 да 17.30/18.00.

## ІЛЬГОТЫ ПРЫПЫНЕНЫ

*Я ахвяра палітычных рэпрэсій 20—80-х гг. Ці ёсць якія-небудзь ільготы мне пры праездзе ў гарадскім транспарце, па аплаце жыллёва-камунальных паслуг?*

**А.К., з тэлефоннага званка ў рэдакцыю.**

Згодна з указам Прэзідэнта РБ № 349 ад 1 верасня 1995 года, прыпынены льготы Закона Беларусі "Аб ветэранах", артыкулы 11 і 17, у адпаведнасці з якімі прадастаўляліся льготы на бясплатны праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце рэабілітаваным ахвярам палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў, а таксама льготы па аплаце жыллёвай плошчы, камунальных паслуг і за карыстанне тэлефонам.

## КУПЛЯЙ, СЕЛЬСКІ МЕДЫК, ПАЛІВА САМ...

*Хацелася б ведаць, чаму медыкі, якія працуюць у сельскай мясцовасці, цяпер не забяспечваюцца бясплатным палівам?*

**Л. РАФАЛЁНАК, в. Мікулічы, Бабруйскі раён.**

Вось што на гэта слушнае пытанне адказаў старшыня Бабруйскага раённага выканаўчага камітэта А. Глаз:

— Такіх прывілеяў па забеспячэнню бясплатным палівам медыцынскія работнікі цяпер не маюць на падставе Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 349 ад 1.09.1995 года "Аб прыпыненні льгот па прадастаўленню бясплатнага жылля і аплаце камунальных паслуг медыцынскім работнікам на вёсцы».

Праўда, тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне раёна шукае магчымасці аказаць сельскім медыкам грашовую дапамогу да 1 ліпеня 1996 года.

## ПОШЛІНА З ГРАШОВЫХ ПЕРАВОДАЎ

*Паўна, шмат у каго ўзнікала пытанне — ці трэба плаціць дзяржаўную пошліну з грашовых пераводаў, якія паступаюць з-за мяжы, і ў прыватнасці з чэкаў, што выпісаны на карысць грамадзян.*

**А. КАЗЛОЎСКІ. Мінск.**

Адпаведныя тлумачэнні Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі накіравау Нацыянальны банк усім камерцыйным банкам.

Згодна з пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 26 лютага 1993 г., прадугледжана, што па грашовых пераводах, якія паступаюць з-за мяжы ў валюце, вызваляюцца ад уплаты дзяржаўнай пошліны замежныя грамадзяне, а таксама асобы без грамадзянства (акрамя грамадзян былога СССР). Падставай для вызвалення ад уплаты пошліны з'яўляецца дакумент, які сведчыць, што атрымальнік пераводу не з'яўляецца грамадзянінам дзяржавы, якая раней уваходзіла ў састаў СССР.

Паколькі дарожныя (тровел) чэкі па сваёй прыродзе не з'яўляюцца грашовым пераводам адной асобы іншай, бо набываюцца за кошт асабістых сродкаў грамадзяніна і ім жа прад'яўляюцца да аплаты ва ўстанову банка, — дзяржаўная пошліна не спаганяецца. Што ж датычыцца імянных чэкаў і чэкаў на прад'яўніка, якія ўяўляюць сабою распараджэнне адной асобы — уладальніка рахунку банку выдаць або пералічыць адпаведную суму з гэтага рахунку іншай асобе, дык у гэтым выпадку дзяржаўная пошліна спаганяецца на агульных падставах.

## ТРЭБА ІСЦІ ДА ЎРАЧОЎ

*Хачу падзяліцца сваім горам. У маёй дачкі у дзяцінстве з'явілася пухліна. Спачатку я не звярнула на гэта ўвагі, пазней, калі дзяўчынка не магла спаць па начах ад болю, павезла яе да ўрачоў. І ў Гродне, і ў Мінску адказалі, што гэтая пухліна паступова знікне. Але яна не толькі не знікае, але і павялічваецца. Цяпер мая шаснаццацігадовая дачушка вінаваціць мяне, што я не згадзілася на аперацыю. Тады я пабаялася рызыкаваць. Што нам рабіць, хто можа дапамагчы маёй дачцэ?*

**Іна Аляксандраўна.**

Паважаная Іна Аляксандраўна! Вельмі спачуваем вам, аднак не можам нічога параіць, акрамя як звярнуцца да ўрачоў па месцы жыхарства. Як паведамілі карэспандэнту газеты ў Галоўным медыцынскім упраўленні Міністэрства аховы здароўя, перш за ўсё звяртацца трэба ў мясцовую паліклініку. Калі вам не змогуць дапамагчы, накіруюць на абследаванне. Жадаем здароўя вам і вашай дачцэ.

## ПРАВІЛЫ ПЕРАВОДУ Ў МДЛУ З ІНШЫХ ВНУ

*Прыёмная камісія Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта дала тлумачэнні па пытанню пераводу ў гэтую навучальную установу з недзяржаўных ВНУ.*

Перавод у МДЛУ ажыццяўляецца згодна з Інструкцыяй "Аб парадку пераводу, аднаўлення і адлічэння студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў" (загад міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 1994 г. № 192). Інструкцыяй прадугледжаны наступныя палажэнні. Па-першае, перавод у дзяржаўную ВНУ дазваляецца толькі з той недзяржаўнай ВНУ, якая атрымала акрэдытацыю. Па-другое, перавод на дзённую форму навучання павінен праводзіцца з улікам планаў падрыхтоўкі спецыялістаў у межах кантрольных лічбаў, гэта значыць пры наяўнасці свабодных месцаў. Па-трэцяе, перавод ажыццяўляецца з улікам дзеючых у дадзенай ВНУ вучэбных планаў і праграм і ведання студэнтамі праграмнага матэрыялу.

Перавод ажыццяўляецца са згоды рэктараў абедзвюх навучальных устаноў.

У МДЛУ дзейнічае механізм зніжэння аплаты за навучанне для студэнтаў, якія вучацца на «выдатна» і нават перавод іх з платнай на бясплатную форму навучання, што памяншае шанцы пераводу ва універсітэт студэнтаў іншых ВНУ. Адсутнасць сродкаў на аплату навучання ні ў якім разе не разглядаецца як нежаданне вучыцца. Кожнаму студэнту, у якога ёсць праблемы, аказваецца дапамога.

Камісія раіць з усімі пытаннямі звяртацца непасрэдна ў прыёмную камісію Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, дзе дадуць поўную інфармацыю.

**Адказны сакратар прыёмнай камісіі МДЛУ дацэнт В.Ф. Руцкая, намеснік адказнага сакратара прыёмнай камісіі МДЛУ прафесар С.А. Шашкова.**

## ЯК ЗЭКАНОМІЦЬ НА АДПАЧЫНКУ?

*Хацелася б гэтым летам з'ездзіць на адпачынак за мяжу: ні разу там не была. Але вось грашовыя сродкі, якія ў мяне ёсць у актыве, вельмі абмежаваныя. Колькі ж каштуюць самыя папулярныя туры?*

**Алена БАСЯК, Мінск.**

Не танна. Той жа адпачынак на Кіпры, які ў мінулым годзе карыстаўся ў беларусаў вялікай папулярнасцю, у пік сезона абыдзецца вам ад 600 долараў і вышэй. Цэны, якія вам прапануюць турыстычныя фірмы, каб з'ездзіць у Іспанію, таксама энтузіязму не выклікаюць — пачынаюцца яны ад 600 долараў, а з лепшымі ўмовамі пражывання і таго больш. Крыху менш «пацягне» адпачынак у Тунісе. Яго вам могуць прапанаваць за 450 долараў. Грэцыя абагрэе вас пяшчотнымі прамянямі, пачынаючы ад 480 долараў і да 680. Не менш, чым у 600 долараў абыдзецца вам і паездка на востраў Крыт. Бадай, больш за ўсё ўражвае кошт адпачынку на Лазурным беразе Францыі: цана пуцёўкі ў 1300 долараў «па зубах», думаем, не многім. Найбольш жа таннай можа аказацца паездка ў блізкае замежжа, напрыклад, на Украіну. Чорнае мора ў Адэскай вобласці з дапамогай фірмы прыме вас усяго толькі за 136—147 долараў. Выбірайце.

## НА ШТО ТРАЦІМСЯ?

*Пералічыце, калі ласка, асноўныя артыкулы расходаў сямейнага бюджэту беларусаў. Кажуць, што больш за ўсё мы трацім грошай на набыццё тытунёвых і алкагольных вырабаў.*

**Яўген М., Маладзечна.**

І памыляюцца. Гэта вынікае з абследавання, якое правяло Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі. Так,згодна з ім, асноўным артыкулам расходаў сямейнага бюджэту ў сярэднім па рэспубліцы з'яўляюцца прадукты харчавання (каля 60,6 працэнта ўсіх сродкаў). Зразумела, для таго, каб жыць нармальна, нам прыходзіцца апранацца, таму другім артыкулам расходаў сямейнага бюджэту з'яўляюцца менавіта расходы на пакупку абутку, адзення, тканін — 9,9 працэнта. На тавары культурна-бытавога прызначэння, мэблю сем'і трацяць да 4,7 працэнта свайго бюджэту. Жыллёва-камунальныя паслугі ў гэтым сэнсе «адбіраюць» каля 4,4 працэнта. Дарэчы, на алкаголь (зразумела, аб гэтым гаворыцца ўмоўна) ідзе ўсяго 3,3 працэнта, а на тытунь — 1,6 працэнта бюджэту. Самы ж нізкі паказчык расходаў сямейнага бюджэту — харчаванне па-за домам. Ён складае ўсяго толькі 1,5 працэнта.

**Адказы на пытанні чытачоў падрыхтавалі Іван БРАЛКА, Жанна КАТЛЯРОВА, Віктар ШЧУЧЭНКА, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

**ПА РОДУ, скажам так, дзейнасці, а таксама прафесіянальных інтарэсаў мне даволі часта прыходзіцца мець справу са змагарамі за справядлівасць. Умоўна я іх называю сацыяльнымі камікадзе. Барацьба за справядлівасць у нашай краіне — небяспечны для фізічнага і духоўнага здароўя занятак. Адымае шмат часу і патрабуе максімальнага напружання сіл. Без гарантыі станоўчага выніку. У нас, калі чалавек абараняе сваё права на штосьці, ён вымушаны процістаяць не канкрэтнаму чыноўніку, а ўсёй сістэме ў цэлым. Самі разумееце, сілы няроўныя. Патрэбна немалая мужнасць.**

**Вось вам гісторыя проста унікальная. Ва ўсякім разе, я такое сустракаю ўпершыню...**

## ПАЧАТАК

У далёкім ужо 1988 годзе Уладзімір Грамыка працаваў вядучым інжынерам інстытута «Белдзяржпраект». Канкрэтна — у аддзеле электразабеспячэння. Работа заключалася ў праектаванні электразабеспячэння ўзводзімых аб'ектаў — бальніц, школ, клубаў і інш.

Інстытут у той год перайшоў на гасразлік (забытае паняцце). Проста сказаць, плацілі ад колькасці зробленага. Скажам, 45 капеек на рубель выкананых аб'ёмаў работ. Так спачатку і было ў інстытуце.

Але раптам расцэнкі знізілі. Каб было зразумела, людзі павінны былі, напрыклад, атрымаць 400 рублёў, а атрымалі 290. Недаплата, такім чынам, па тым часе вялікая. Як гэта здарылася? Начальнік аддзела сабраў намеснікаў, начальнікаў сектараў, пару радавых супрацоўнікаў, — усяго дзевяць чалавек і з лікам 5:4 правёў новыя, заніжаныя расцэнкі. Грошы ад адной брыгады былі ўзяты і пераведзены на другую. Там працавала жонка начальніка. Галоўнае — гэта назвалі саветам працоўнага калектыву (СПК) аддзела. Ужо потым Уладзімір высветліў, што ёсць толькі адзін СПК — усяго прадпрыемства, і начальнік аддзела элементарна парушыў заканадаўства. Гаворачы нармальнай мовай, абакраў сваіх работнікаў.Безумоўна, гэта ўсіх абурыла. Праўда, у нас абураюцца пераважна ў «курылках». Грамыка сваё абурэнне адтуль вынес на публіку. Ён адмовіўся атрымліваць зарплату, пакуль не будзе праведзены пераразлік. Уладзімір дысцыплінавана выконваў работу, акуратна забіраў разліковыя лісткі ў бухгалтэрыі, але ў ведамасці не распісваўся. Гэта доўжылася 27 месяцаў. У канцы 1990 года Грамыка звольніўся і перайшоў на іншую работу. Зарплату сваю так і не атрымаў. Па прыблізных падліках, яна складае каля 9 тысяч рублёў. Плюс 3 тысячы недаплачаных, па сутнасці скрадзеных. 12 тысяч. Колькі гэта зараз? Я цікавіўся ў многіх: называюць лічбу дзесьці каля 1000 долараў. Зразумела, прыблізна. Дастойная сума. Думаю, Грамыка ад яе не адмовіўся б. Ён і не думае адмаўляцца. Хоць неабходна, на мой погляд, дадаць іскі да канкрэтных устаноў з патрабаваннем кампенсацыі за маральны ўрон. Праўда, гэта ўжо з галіны фантастыкі. Гэта ў Штатах працэс тыпу «містэр Сміт супраць Злучаных Штатаў Амерыкі» — справа звычайная і нікога не здзіўляе.

У нас гэты нумар не праходзіць...

## УЛАДЗІМІР ГРАМЫКА СУПРАЦЬ УСІХ?

Уласна кажучы, сваю эпапею Грамыка распачаў ужо ў 1988 годзе. Першым быў Фрунзенскі раённы суд. У судзе прапанавалі вызначыць канкрэтную суму: колькі недаплацілі? Грамыка звярнуўся ў народны кантроль — была такая, хто не ведае, цікавая арганізацыя. Паступова Уладзімір дайшоў да сп.Лагіра, тагачаснага кіраўніка КНК БССР. Адным словам, была праверка, і з яе вынікамі Грамыка адправіўся зноў у Фрунзенскі суд.

# УНІКУМ



Верагодна, судзейскія не хацелі займацца гэтай справай і проста яе спынілі. Фармальная падстава: праблему павінен вырашаць прафком, суду такія справы не падведамныя.

Першая няўдача загартавала Грамыку і пацвердзіла, што «з ваўкамі жыць — па-воўчы выць»: Уладзімір Сцяпанавіч узяўся за вывучэнне практычнай юрыспрудэнцыі. (Забягаючы наперад: ён дасягнуў тут бліскучых вынікаў.) Знайшоў брашуру В. Г. Ціхіні «Працоўныя спрэчкі» (Мн., 1988). Чорным па беламу там напісана, што такога роду канфлікты суду падведамныя.

Гэта ж потым пацвердзіў пракурор Фрунзенскага раёна сп. Кавалеўскі, магчыма, адзіны чалавек за амаль 8 гадоў, якому Грамыка шчыра ўдзячны. Пракурор Кавалеўскі разабраўся ў праблеме за 2(!) дні і растлумачыў Уладзіміру, што праўда на яго баку, а суд не меў права справу спыняць.

У інстытуце тым часам падзеі развіваліся сваім парадкам. Натхнёныя прыкладам Грамыкі, яшчэ дзве брыгады адмовіліся атрымліваць зарплату. Падалі іск у суд. Перад гэтым прайшлі патрэбныя інстанцыі: камісію па працоўных спрэчках, прафком, адміністрацыю — і прыклалі да заявы адпаведныя пратаколы.

Тым не менш, суд у іску адмовіў. Падстава ўсё тая ж — гэтым павінен займацца прафком. Нягледзячы на існаванне пратакола пасяджэння гэтага прафкома. Крыху судзейскія запісаліся. Самі сябе абдурылі. На гэтым атакуючы парыў брыгад скончыўся.

Грамыка ж пачаў планамерную, доўгатэрміновую асаду органаў, якія, калі разабрацца, павінны былі абараняць яго правы: сумовы адказ месца ўсё ж меў. У ім гаворыцца чамусьці аб нормах выпрацоўкі, што не адпавядае ісціне: з самага пачатку Грамыка прасіў аб пераразліку заробленага.

Адным словам, Уладзімір пацярпеў фіяска і адышоў на загадзя падрыхтаваныя пазіцыі: метадычна пачаў абыходзіць прафсаюзы розных узроўняў.

З Белсаўпрофа яму адказалі даведкай. З яе вынікала, што, маўляў, у вас ёсць СПК, ён вырашае падобныя праблемы. Адна заўвага: пытанні аплаты працы ў кампетэнцыю СПК не ўваходзяць. Цікава, што гаварылася аб праверцы скаргаў Грамыкі Генпракуратурай (гэтага не было). Бітва з пракуратурай яшчэ толькі меркавалася.

Пасля гэтага Уладзімір Сцяпанавіч пабываў у раённага пракурора Кавалеўскага і той блаславіў яго на новы штурм судовай улады — райсуда. Што і было зроблена.

Дакументы ў Грамыкі прынялі, сказалі: добра, будзем займацца. Займаліся каля 10 месяцаў адзін за адным чацвёра суддзяў і ў рэшце рэшт вынеслі вердыкт — у прыёме заявы адмовіць. Матывіроўка: судамі такія справы не разглядаюцца...

«На колу мочало, начинай сначала». 99 са 100 суайчыннікаў на гэтым бы і скончылі пошукі праўды: ды гары яно гарам! Уладзімір Грамыка, як гаворыцца, толькі ўвайшоў у азарт. Ён мне нечым нагадвае героя фільма «Дзесяць гадоў без права перапіскі». Яго бацьку расстралялі і ён хоча, каб пасадзілі таго, хто напісаў данос у НКУС.

Трымаючы ў руках Канстытуцыю, ён крычыць: «Я прымушу іх выконваць тое, што яны тут напісалі!» Урэшце, сам забівае даносчыка. Не прымусіў.

Там у іх свае законы. Гэта трэба разумець. І большасць разумее: законы лёгка абыходзяцца. У прынцыпе, гэта ўсіх задавальняе — і вярхі, і нізы. Але тут з'яўляецца нейкі дзівак і гаворыць: а вось закон, яго трэба выконваць. І адразу становіцца ўсім нязручным. Яго хочацца не заўважаць, паставіць на месца, сцерці ў пыл, — псуе агульную карціну, у цэлым спакойную...

Адным словам, Грамыка піша касацыйную скаргу ў гарадскі суд. Адказ: адмовіць. У адказе пішуць, што Грамыка нібыта аспрэчвае дзеянні адміністрацыі, узгодненыя з прафкомам. Новы, калі можна так сказаць, матыў.

Далей — зварот у гарадскую пракуратуру. Тая не знаходзіць парушэння заканадаўства: нарматыў зарплаты ўстанаўліваецца адміністрацыяй па ўзгадненню з саветам працоўнага калектыву аддзела. Іншымі словамі, ніхто не хоча ўнікаць у сутнасць справы. Гэта нікому не трэба. Грамыка ж, паўтаруся, жадае пераразліку зарплаты на той падставе, што зніжэнне расцэнак было незаконным і сілы не мае, бо СПК аддзела — няма, гэта фікцыя. Чаму я, далёкі ўвогуле ад юрыспрудэнцыі чалавек, зразумеў гэта за 15 хвілін размовы, а пракуратура і суд не хочуць разумець восьмы год?

## БІТВА ПАБЛІЗУ НЯМІГІ

Паблізу вуліцы Няміга ёсць вуліца Камсамольская. А там размешчана Генеральная пракуратура РБ.

Грамыка пазнаёміўся са сп. Шаладонавым. Праўда, ён так часта бываў у пракуратуры, што да Генеральнага яго проста не пускалі. Па словах Уладзіміра Сцяпанавіча, яго папер, такое ўражанне, не чыталі наогул. Што вы! Вядома чыталі, але гэта нічога не мяняла. Адказы былі на дзіва аднастайнымі: не, не і яшчэ раз не.

Грамыка вырашыў зайсці з другога боку. Дабіўся сустрэчы з М. Грыбам, тады яшчэ не апошняй фігурай у МУС і народным дэпутатам. Сп. Грыб паабядоў розных інстанцый, пракуратуры, Вярхоўнага Савета і г.д.

## «МОЖАЦЕ СКАРДЗІЦЦА НА МЯНЕ. КАЛІ ЛАСКА»

Пасля раённага суда Грамыка звяртаецца ў гарадскі суд. Той падтрымлівае калег: справа непадсудная, звяртайцеся ў прафком. Прыемная такая салідарнасць.

Наступны ўзровень — Вярхоўны суд. Грамыка трапіў на прыём да члена ВС сп. Сідарэнкі. Дапускаю, што праблема Уладзіміра Сцяпанавіча падалася яму занадта дробнай для такой саліднай установы. Сп. Сідарэнка адмовіўся слухаць Грамыку. Справу з гарсуда нават не запатрабавалі. Але пісьцаў: «Я дам указанне разабрацца». Прайшоў нейкі час, раптам Мечаслаў Іванавіч захварэў. Потым яго выбралі Старшынёй Вярхоўнага Савета. Натуральна, справа заглохла.

Зноў усё спачатку. Грамыка ўзяўся за сп. Булахава — тады старшыню адпаведнай камісіі ВС. На гэта спатрэбілася 4 месяцы. Урэшце Дзмітрый Пятровіч быў «адлоўлены» і таксама паабяцаў: «Разбяруся». Сп. Булахаў накіраваў сп. Шаладонаву паперу з просьбай прыняць сп. Грамыку, але апошняга зноў не прынялі.

Нават пісаць аб гэтым стамляешся. Не хацеў бы я трапіць на месца Уладзіміра Грамыкі.

Аднак ён ідзе на штурм чарговай вышыні — Адміністрацыі Прэзідэнта. Далей па старому сцэнарыю: папера з адміністрацыі ў пракуратуру — Грамыку не прымаюць. Ах і ах.

Тут, думаю, у любога рукі апусцяцца. Але Грамыка ідзе да канца: трапляе на прыём да старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні. І знаходзіць поўнае разуменне. Валерый Гур'евіч абяцае: «Я асабіста пазваню Шаладонаву, каб ён прыняў вас». Сп. Ціхіня лічыць, што суд павінен займацца справай Грамыкі. Гэта было 20 красавіка 1995 г. Потым старшыня КС захварэў — давялі самога. За час хваробы сп. Шаладонаў перастаў працаваць на сваёй пасадзе. Прама нейкі злы рок... То хварэюць, то сыходзяць.

Была яшчэ спроба прарвацца на Генпракурора праз Адміністрацыю Прэзідэнта. Без поспеху.

Была сустрэча з членам Канстытуцыйнага суда сп. Пастуховым. Ён сказаў: «Вы маеце рацыю, суды не маюць падстаў адмаўляць». Праз Пастухова Грамыка трапіў у Міністэрства юстыцыі. Як вы разумееце, выніку не было.

У снежні 1995 г. Уладзімір Грамыка — зноў у В. Ціхіні. Старшыня КС піша асабістае пасланне новаму Генпракурору В. Капітану з усё той жа просьбай: прашу разгледзець. Вытрымаўшы 3 тыдні, Грамыка ідзе ў прыёмную да Генеральнага. Пісьма Ціхіні там няма. Яно знаходзіцца ў канцылярыі. Аказваецца, разумныя чыноўнікі з канцылярыі самастойна накіроўваюць пісьмо Ціхіні ў аддзел для рэагавання. Такую выснову робіць Грамыка. Удумайцеся: старшыня Канстытуцыйнага суда піша асабіста Генеральнаму пракурору рэспублікі — і пісьмо да апошняга не даходзіць!

Што зрабіць яшчэ? Уладзімір Грамыка звяртаецца да Ю. Малумава. Той робіць дэпутацкі запыт Генеральнаму пракурору.

І ўсё ж такі Уладзімір Сцяпанавіч іх «дacіснуў». У канцы красавіка г. г. В. Капітан прыняў яго на 5 хвілін: «Начальнік аддзела будзе займацца вашай справай па майму ўказанню».

29 мая 1996 г. Уладзіміру Грамыку прыйшоў адказ з Генеральнай пракуратуры. Цытую: «Такім чынам, Вы аспрэчваеце нарматыў фонду зарплаты, устаноўлены адміністрацыяй і прафкомам інстытута для сектара электразабеспячэння... Фактычна Вамі ставілася пытанне аб змяненні ўмоў працы, якія дзейнічалі ў арганізацыі, а гэтыя пытанні суду непадведамныя. Па выкладзеных матывах падстаў для апратэставання вызначэння суддзі Фрунзенскага раённага суда ад 09.01.91 г. не знаходжу. Генеральны пракурор РБ В. С. Капітан».

Пасля гэтага адказу Уладзімір Грамыка прыйшоў да мяне.

Магчыма, я штосьці не разумею. Чагосьці не ведаю. Нарэшце, магу памыляцца — усё ж такі не юрыст. Дапусцім, і Грамыка няправільна ўспрыняў сёе-тое. Мы з ім увогуле радавыя людзі.

Але я не магу лічыць такімі старшыню Канстытуцыйнага суда, члена таго ж суда, супрацоўнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта, дэпутатаў-юрыстаў, урэшце, раённага пракурора Кавалеўскага. Я не магу ім не верыць. А яны сцвярджаюць: праўда на баку Уладзіміра Грамыкі. Значыць, яны разбіраюцца ў юрыспрудэнцыі горш, чым работнікі Генпракуратуры?

А можа, ідзе нейкая тайная, падводная вайна, сутыкненне амбіцый, інтарэсаў, характараў? Ды няхай нават так. Пры чым тут сціплы інжынер Уладзімір Грамыка? Чаму ён прымушаны кінуць работу, перабівацца выпадковымі заробкамі масажыста, каб мець магчымасць рэгулярна абыходзіць усе гэтыя высакамудрыя ўстановы?

Здаецца, задума была крыху іншая: установы павінны абараняць правы Грамыкі. Выходзіць як заўсёды. А хацелі як лепш. Складваецца ўражанне, што і суд, і пракуратура выконваюць нейкія свае, аўтаномныя, толькі ім вядомыя задачы. І справаздачу трымаюць не перад намі, грамадзянамі гэтай краіны, а перад кімсьці, перад нейкай вышэйшай сілай. Хоць якая тут тайна: сістэма абслугоўвае самую сябе. Мы тут ні пры чым і ў разлік амаль не ўваходзім. Так, матэрыял.

...Уладзімір Сцяпанавіч на развітанне падарыў мне «Схему маіх зваротаў у кантралюючыя, праваахоўныя, судовыя і вышэйшыя органы ўлады...» Вельмі цікава. Красамоўная такая схема.

Магчыма, спатрэбіцца і вам. Тады ад душы спачуваю...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ПЕРАД НОВАЙ ЭКАЛАГІЧНАЙ БЯДОЙ?..

На Тройцу паехалі з роднымі па сваіх «каранях» — Пухавіцкаму і Чэрвеньскаму раёнах. Сустрэліся з блізкімі і сваякамі, са знаёмымі, успомнілі пайшоўшых ад нас дзядоў ды бабуль... Наслухаліся і пра жыццё сённяшняе.

Састарэлыя, калекі, пенсіянеры з вёскі Машчаліна Сарафіна Расолька, Ганна Нагорная, Ніна Гурончык, Ніна Сямашка жывуць на ростаньках пры недасохшым калодзежы. Пайшла вада ад людзей.

— Зімой, — жаляцца бабулі, — тапілі снег, здабывалі ваду такім старажытным спосабам, а прыйшло лета і як без вады: ні грады паліць, ні скаціне згатаваць, ні самім паціць?

Гаруюць жанчыны. Глыбокі калодзеж, ды пусты. Пуста і на душы ў людзей ад безвыходнасці і бездапаможнасці. І «лаўка» прыязджае ў Машчаліна толькі раз на тыдзень. Па дзве буханкі хлеба ў рукі даюць, і цярпі да новага прывозу.

Напісалі за непісьменных бабулек добрыя людзі пісьмы ў сельскі Савет, што ў вёсцы Ляды, у Чэрвеньскі райвыканком.

— А ці будзе «помач» адкуль — не ведаем, — дапамажы, дзіцятка, куды напісаць, дзе знайсці рады, — просяць старэнькія, адзінокія, пакінутыя. «І праўда, дзе?» — падумалася мне.

Прыехалі ў вёску Дукора Пухавіцкага раёна — і там тая ж бяда — няма вады нават у калонках. Дык гэта ж ужо, відаць, не проста месніцкая праява няўвагі да людзей, а нейкая больш сур'ёзная экалагічная з'ява. Як жа, сапраўды, вярнуць людзям ваду? Хто натоліць іх смагу?

**Павел МАМЛІН.**







## ЖЛОБІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Пасажырскі цягнік плаўна падкаціў да перону чыгуначнай станцыі Жлобін. І адразу прыбыўшых сустрэў цэлы натоўп гандляроў самаробнымі цацкамі. Прычым яны ачапілі не толькі наш шосты, але і ўсе астатнія вагоны.

— Купіце тыгра...

— А ў мяне мядзведзь...

— Па сходнай цане ўступлю пантэру. Дзецям спадабаецца, — настойліва спрабуе рэалізаваць свой тавар маладзіца.

— Спазнілася, даражэнькая, гадоў мо на дваццаць. У мяне ўжо ўнукі, — жартую ў адказ.

— Тады ўнукам вазьміце...

Цэны, і праўда, не надта вялікія. Але ці то грошай у пасажыраў аказалася небагата, ці вырабы не спадабаліся, але бралі нямногія.

Большасць тых, хто рэалізоўваў тавар, так ці інакш звязаны з мясцовай фабрыкай штучнага футра. Цяжка стала людзям: многія цэхі наогул не працуюць, затаварыліся. А жыць трэба. Вось і навучыліся вырабляць цацкі са штучнага футра. Сяк-так перабіваюцца. Адным словам рынак, будзь ён няладны...

Пашчасціла ў гэты дзень і яшчэ на адну цікавую сустрэчу. У невялічкую вёску Затон, што непадалёку ад горада, прыехалі да бабулі з дзядулем, Раісы і Пятра Стрэнаковых, унукі. Быццам птушаняты, абляпілі яны іх. Гарэзам хораша ў вёсцы! Кароўка, па прызнанню гаспадыні, яшчэ, дзякуй Богу, доіцца: малым і сырадою, і сыраквашы, і смятанкі перападае, ды і куры нясуцца. А побач — Дняпро. Раздолле дзецям!

Дняпро і сапраўды цудоўны! Вачэй не адвесці ад мясцовых краявідаў. Паспрабавалі папрасіць, каб чалавек у чоўне даў праехаць. Аднак той некуды спяшаўся, магчыма, на рыбалку. Кажуць, сёлета рыба добра бярэцца.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

**НА ЗДЫМКАХ: гандаль ля падножкі вагона; моцна ўзялі «ў палон» унукі дзядулю з бабуляй; дняпроўскія краявіды.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ДАРОГА ДА ХРАМА: паміж Вызнай і Чырвонай Слабадой

**Нішто адвечнае нельга змяніць гвалтоўна, як немагчыма, хутка ці няхутка, вярнуцца на тое ж месца — крок у крок, нібы двойчы, ўвайсці ў тую ж раку.**

**У гарадскім пасёлку Чырвоная Слабада, што на Салігоршчыне, дабудоўваецца царква на ўскрайку старога парку. Яна названа ў гонар беларускага святога Георгія Канінскага, архібіскупа Магілёўскага і Беларускага. Службы ідуць на рускай мове, але не гэта дзіўна, бо храм праваслаўны. Па словах мясцовага святара айца Вячаслава, ён гатоў служыць па-беларуску, што і прапанаваў сваім прыхаджанам. Але прыхаджане адмовіліся.**

Калі капалі катлаван для падмурка царквы, знайшлі труну з касцямі, некалькі чалавечых шкілетаў. Гэта не былі яшчэ адны Курапаты: аказваецца, пад дарожкамі парку і зялёнай травой хаваліся... могілкі. Тут хавалі пасля смерці вызненскіх, а потым чырвонаслабодскіх святароў. А побач стаяў вялікі, прыгожы храм — царква Мікалая Цудатворца.

Яе напаткаў той жа лёс, што і манастыр ля Папоўцаў, непадалёк адсюль, — разбурылі перад вайною. Старыя расказваюць, што з царкоўных дошак будавалі хаты ды хлявы. І дагэтуль дзівяцца людзі: ніхто з тых, хто разбураў, чамусьці праз шмат гадоў не памёр сваёй смерцю ці пры сваім розуме.

Сёння на месцы разбуранага храма пакуль толькі падмурак, але побач год таму ўзнялася маленькая цэркаўка, якая можа ўмясціць, калі людзі стаяць вельмі шчыльна, чалавек дзвесце. Па святах, праўда, народу збіраецца больш за тысячу (што складае недзе пятую частку насельніцтва пасёлка). Пабудаваны храм на грошы, сабраныя мясцовымі жыхарамі. Дапамог уладыка Філарэт, а таксама сябры айца Вячаслава. Сам святар стаў аўтарам праекта і, пра што ўжо не адзін год з павагай гаворыць навакольны люд, працаваў разам з рабочымі на будаўніцтве.

І жыхары таксама прыклалі руку да адраджэння храма. Вітражы на вокнах зроблены тутэйшым мастаком, а шматлікія ручнікі, вышыўкі (такія, як паўсюль можна бачыць паміж Капылём і Слуцкам) — вынік працы тутэйшых майстрых.

Камяні для падмуркаў, між іншым, назбіралі таксама вызненскія дзеці. Хаця, хутчэй, чырвонаслабодскія, бо новае пакаленне, узрошчанае на «пепсі», зараз кроку не зробіць без сумы ў «зайчыках узамен. Не бяруся вучыць дзяцей як жыць, проста для далейшага будаўніцтва ў праваслаўнай абшчыны туга з фінансамі. Дапамагаюць усё тыя ж сябры айца Вячаслава. Днямі адзін з іх, Андрэй Сафонаў з Мінска, перадаў 4 мільёны. І то, як кажуць, хлеб: хапіла на два «кубы» дошак ды некалькі бляшанак фарбы. Купал над цэркаўкай пакуль блішчыць толькі алюмініем...

Напэўна, працэс дабудоўвання зацягнецца надоўга, асабліва калі зыходзіць з першапачатковай ідэі Вячаслава Анатольевіча. Была задумка зрабіць тут зусім унікальны храм, 13-купальны, які, магчыма, стаў бы нават помнікам мастацтва. Увогуле, журналісты тут не самыя жаданыя госці: «Богу не падабаецца, калі выносяцца царкоўныя праблемы на суд людскі».

Магчыма. Але Богу, відаць, многае не падабаецца. Як звычайны савецкі чалавек, выхаваны ў піянерскім гальштуку (і ахрышчаны ажно 20 гадоў таму менавіта пад Вызнай) я маю права пра гэта сказаць. Тым больш, што разам з усімі тутэйшымі таптала штогод парк над могілкамі. Хоць і не ведаючы пра тое, як і ўсе.

У Чырвонай Слабадзе ёсць прадстаўнікі іншых хрысціянскіх канфесій. Справа не ў тым, якая з іх лепшая (вось на гэта я праву не маю і мець не хачу!).



Проста паміж імі ніколі не ўзнікае нейкіх сур'ёзных праблем, а вось з атэістамі... Айцец Вячаслаў неаднойчы чуў у свой бок пагрозы. У чым яго «віна»? Ды вось: хаваць не хоча тых, хто не з'яўляецца яго прыхаджанамі. Кажа, што нельга гарэлку піць пасля пахавання. І перад вянчаннем: у старажытнасці так рабілі, каб разладзіць вяселле і пасварыць маладых. Не ведаю, не ведаю... Але вянчанняў сёння ўсё больш. Як і разводаў.

Можа, і сапраўды, нешта не падабаецца Богу на нашай зямлі? Па вялікаму рахунку...

Вось і крыж адзін з парку знік зусім. У снежні мінулага года яго ўстанавілі тут у гонар Слуцкага Збройнага чыну. Каму перашкаджаў? На маё пытанне айцец Вячаслаў растлумачыў, што крыж быў няправільны. Не такі, як праваслаўны ці крыж Ефрасінні Полацкай, які можна лічыць сімвалам Беларусі. А такі, што адпавядае сімвалу язычніцкага бога Ярылы. «Гэта — знак вайны», — пераконваў мяне святар. Відаць, час яшчэ не прыйшоў для асэнсавання многіх рэчаў: і тут, у былым мястэчку, і далёка ад яго, ва ўсіх накірунках.

Паколькі пры царкве і праваслаўнай абшчыне ўжо 6 гадоў існуе нядзельная школа і вось-вось атрымае сан ужо трэці малады святар, айцу Вячаславу ёсць каму перадаць сваю справу. На пачатку ж нашай размовы ён упэўнена сказаў мне: усякі бунт — гэта ад Сатаны, і Сатана быў першым бунтаром на свеце...

Паколькі мы амаль усе — хрысціяне ў піянерскіх гальштуках, то з дзвюх нядобрых з'яў (бунтарскіх) я ўсё ж аднесла б да горшай тую, што вызначаецца большай мерай гвалтоўнасці. Па-дылетанцку ў сэнсе багаслоўя...

**Таццяна СНІТКО.**

**Фота Віктара ВЕТКІНА.**

## ПРАВА НА ПРАЦУ?

**Гісторыя гэтая цікавая і працяглая. Цікавая таму, што ў наш, не зусім адпаведны міжнародным стандартам час, чалавек вымушаны быў звярнуцца, абараняючы свой гонар і свае правы, у судовыя органы, прычым чалавек радавы, вадзіцель калгаса. Ну а працяглая таму, што пачалася гэтая гісторыя яшчэ ў 1993 годзе і завяршэння яе, напрыклад мне, не бачыцца.**

За мінулыя гады адбылося столькі судовых і несудовых разбораў, што злічыць цяжкавата. З аднаго боку ў канфлікце выступае былы вадзіцель калгаса «Перамога» Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці Мікалай Спірыдовіч, з другога — старшыня гаспадаркі В. В. Адамчык, члены праўлення гаспадаркі В. П. Якушонак, Д. Б. Русак, Ф. С. Шубін. А. І. Пузыроў, А. А. Гауль, В. І. Рамейка, якія старшыню ва ўсім падтрымлівалі.

Дык вось, у 1993 годзе вадзіцеля калгаса «Перамога» звольнілі з работы і выключылі з членаў калгаса. Як ён лічыў, неправамерна. Ён і пачаў сваё хаджэнне спачатку па адміністрацыйных, а потым па судовых інстанцыях. 19 мая 1995 года абласны суд прызнаў, што патрабаванні Спірыдовіча аб аднаўленні на рабоце справядлівыя. 10 ліпеня гэтага ж года Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў гэта рашэнне законным.

Выконвайце.

Але дзе там! Пракуратурай Пастаўскага раёна нават узбуджалася крымінальная справа супраць старшыні калгаса «Перамога» В. Адамчыка за невыкананне судовых рашэнняў. Але не ў гэтым, у рэшце рэшт, справа. Спірыдовіча ў маі гэтага года прынялі на работу ў калгас.

Мне, як журналісту, цікава толькі адно: чаму менавіта для яго складзены індывідуальны графік работы, які мае на ўвазе, што заняты чалавек будзе на рабоце з 7.30 да 21 гадзіны, прычым часткова шафёрам аўтобуса, а часткова слесарам у майстэрні. У судовым рашэнні па яго аднаўленні на рабоце нічога такога не прадугледжвалася. Копія распарадку дня Спірыдовіча ў мяне ў наяўнасці, як і копія судовага рашэння. 6 чэрвеня Пастаўскі раённы народны суд разгледзеў іск М. Спірыдовіча да старшыні калгаса В. Адамчыка і членаў праўлення калгаса, якія пералічваліся вышэй. Існец патрабаваў за нанесеную маральную шкоду са старшыні калгаса 25 мільёнаў рублёў, з членаў праўлення, якія падтрымлівалі старшыню, яшчэ 25 мільёнаў рублёў.

Пастаўскі раённы народны суд прызнаў, што «маральныя пакуты Спірыдовічу М. П. былі прычыненыя парушэннем аднаго з асноўных правоў грамадзяніна, гарантаванага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, — права на працу. Улічваецца, што існец доўгі час не дапускаўся да работы, на ўтрыманні ў яго знаходзіцца шасцёра непаўналетніх дзяцей...»

Але крыху незразумелым з'яўляецца рашэнне суда: «Спагнаць з калгаса «Перамога» Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці на карысць Спірыдовіча Мікалая Пятровіча ў пагашэнне маральнай шкоды тры мільёны рублёў...»

У іску да старшыні калгаса і членаў праўлення адмоўлена.

Аказваецца так: М. Спірыдовіч апраўданы, яго на працягу некалькіх гадоў несправядліва не дапускалі да работы. Але вінаваты ў гэтым не канкрэтныя людзі, а ўвесь калгас у цэлым, нават тая бабуля Марыля, якая са сваёй далёкай вёскі нават не чула пра канфлікт.

Я заўсёды дзіўлюся ўменню нашых чыноўнікаў, якія нават дзяржаўнае рашэнне (а рашэнне Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь — гэта ўжо дзяржаўнае рашэнне) могуць «спусціць на тармазах», бо ў іх руках права тэлефоннае, права не выконваць прынятыя ўжо рашэнні. Дакуль?

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# РАСІЙСКІЯ ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР,
## або Што рабіць нам, беларусам?

На вуснах калі не ўсяго чалавецтва, то, прынамсі, палітычна свядомай яго часткі было ў апошні час слова «выбары». На аснове ўсеагульнага выбарчага права адбыліся нядаўна выбары ў суседняй з намі Польшчы, у Албаніі, Ізраілі, Чэхіі, нават у... Чачні(?). Увайшла ў актыўную стадыю падрыхтоўка прэзідэнцкіх выбараў у Балгарыі, у ЗША (у апошніх толькі што закончыліся так званыя першасныя выбары).

І вось — прэзідэнцкія выбары ў суседняй з намі Расіі. Выбары, да якіх прыкавана ўвага ўсёй палітычна актыўнай, зноў-такі, часткі сусветнай грамадскасці і якія датычацца непасрэдна нас, беларусаў, нашай Рэспублікі Беларусь. Мы тут зацікаўлены больш, можа, чым хто-небудзь іншы. Бо, як там, на прасторах Расіі, будзе «гукацца», так тут, у Беларусі будзе адпаведна адгукацца.

Можна было б, вядома, больш спакойна ставіцца да гэтай падзеі, да таго, хто пераможа на выбарах, якімі будуць вынікі ўсеагульнага галасавання расіян, калі б не два наступныя моманты. Першы: наяўнасць у рэспубліцы сіл, якія рашуча настроены на так званую інтэграцыю (рэінтэграцыю, канфедэрацыю, а калі без эўфемізмаў — на інкарпарыю ў састаў суседняй дзяржавы) і ставяць пад пытанне статус Беларусі як дзяржавы, як суб'екта міжнароднага права. На што звярнула ўвагу, пра што гаворыць занепакоена сусветная грамадскасць і супраць чаго рашуча выступілі ўдзельнікі нядаўніх веснавых масавых выступленняў, скандзіруючы: «Свабода!» і «Незалежнасць!».

Другі момант, які не можа не ўплываць на наш настрой, не выклікаць трывогі ў сувязі з надыходзячымі ў РФ выбарамі, заключаецца ў драматычным, сацыяльна напружаным, на грані фолу, характары перадвыбарнай барацьбы, непрадказальнасці вынікаў галасавання. Так, выбары — заўсёды змаганне (хто каго?), заўсёды паядынак, турнір. Але ў дадзеным выпадку мы маем, як відаць, справу не з натуральным, «рыцарскім» паядынкам і не з зусім нармальнай дэмакратычнай працэдурай, звычайнай праявай агульнапрызнанага светам права грамадзяніна «на ўдзел у свабодных і справядлівых выбарах». У дадзеным выпадку выбары нагадваюць іншы малюнак: сценка ідзе на сценку (як калісь, паводле мемуараў Ельцына, адна вёска ішла з каламі на другую), сыходзяцца розныя сацыяльныя слаі, розныя палітычныя сілы, ідэалагічныя ўстаноўкі, падыходы, догмы, погляды. А калі паслухаеш (з экрана тэлевізара ці па радыё) дзеячаў тыпу Анпілава, Няўзорава ці Лімонава, то расіянам трэба разглядаць выбарчыя ўчасткі як барыкады і адпаведным чынам рыхтавацца.

«Выбарчы бюлетэнь лепей за бомбы нават у тых выпадках, калі вынікі выбараў крыху падроблены», — так каменціравала сітуацыю з апошнімі выбарамі ў Алжыры французская газета «Ліберасьён». Гэта сапраўды так. Але я не думаю, што расійскія «ультра» ўсур'ёз вераць у магчымасць фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Проста ім з іх антыдэмакратычнай па свайму духу ментальнасцю не даспадобы свабодныя, роўныя, прамыя выбары. Ім больш падабаюцца сілавыя прыёмы, бомба ды аўтамат. І калі нядаўнія выбары губернатара Санкт-Пецярбурга, па словах «Известий», «пахнуць нафтай і газам», то выбары мэра Масквы запахлі ўжо крывёй: кандытата ў віцэ-мэры, цяжка параненага ў выніку тэракта, акрываўленага адвезлі ў клініку Скліфасоўскага.

Дадам і адно павучальнае сведчанне — надрукаваны нядаўна ў «ЛіМе» ліст беларуса Аляксандра Пятруннікава, які жыве ў г. Манчагорску Мурманскай вобласці. «Асабіста мяне, — піша наш зямляк, — здзіўляе «наіўнасць» беларусаў, якія лічаць, што варта толькі аб'яднацца з Расіяй, як пацякуць у іх бок малочныя рэкі ў кісельных берагах». І прыводзіць канкрэтныя факты, якія выразна характарызуюць сацыяльна-эканамічнае становішча ў братняй Расіі: камандуючы Арктычнай пагранічнай акругай генерал-лейтэнант Пляшко (з беларусаў) загадаў паставіць навабранцаў «на адкорм», бо маладыя салдаты фізічна не ў стане выконваць свае абавязкі; гэтай зімой амаль усе гарады Мурманскай вобласці «стояли на грани замерзания»; у некаторых раёнах Валгаградскай, Растоўскай, Саратаўскай і іншых абласцей ціск газу ў камунальных сетках настолькі ўпаў, што немагчыма гатаваць ежу; людзям месяцамі не плацяць зарплату; расійскія эканамісты прама гавораць, што пры спрыяльных умовах узровень жыцця ў Расіі стане больш-менш нармальным толькі праз 30—40 гадоў...

Такія вось справы, такія прагнозы, у такіх абставінах будуць праходзіць у нядзелю выбары прэзідэнта Расійскай Федэрацыі. І паколькі іх выбары несумненна адаб'юцца на становішчы ў Беларусі, а можа, і на яе далейшым лёсе, то мімаволі задаешся пытаннем: як нам быць, што рабіць нам, беларусам (адвечнае не толькі расійскае, але і беларускае пытанне)?

Адказ на гэта пытанне падказвае нам фактычна «старэйшы брат» у асобе прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Расіі. Як бы ні адрозніваліся іх праграмы, усе яны — і нікому невядомы бізнесмен Шакум, і даволі вядомы генерал Лебедзь, і ўсім вядомы сённяшні прэзідэнт Ельцын, і ліберальны дэмакрат Жырыноўскі, і камуніст Зюганаў, і «рускі сацыяліст» (ён жа — і расійскі капіталіст) Брынцалаў, — усе яны ў адзін голас гавораць, што «стержнем государственной политики должно стать возрождение России», што «Россия должна выбрать свой путь в мире и твердо и уверенно начать по нему движение», што «необходимо твердо отстаивать интересы России в формирующемся многополярном мире». Так, усе яны дзяржаўнікі, усе сыходзяцца на тым, што трэба усяляк адстойваць нацыянальныя інтарэсы Расіі, умацоўваць расійскую дзяржаўнасць. А Лебедзь яшчэ напамінае з салдацкай праматой: «... Остро стоит вопрос об огромных задолженностях ряда наших ближайших соседей, в первую очередь за энергию и сырье. В условиях экономического кризиса в России такая ситуация недопустима... Подарков мы никому делать не намерены и жить за наш счет никому не позволим. Экономическое сотрудничество России с соседями будет развиваться только на взаимовыгодных условиях». (Заўважым, дарэчы: ніякай скідкі, ніякай ільготы для сваёй сваячкі па «сообществу», што, вядома, сімптаматычна.)

Так што нічога іншага не застаецца нам, — «не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло», — як рашуча адраджаць, на нацыянальна-дэмакратычнай аснове, сваю дзяржаўнасць, прадаўжаць будаваць, у строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй, сваю дзяржаву — суверэнную, дэмакратычную, прававую Рэспубліку Беларусь. Парадкаваць сваю ўласную хату, як кажа старэйшына нашай літаратуры Максім Лужанін.

Тым больш, што дзяржава, як вядома, гэта не толькі інстытут палітычнай сістэмы, не толькі пасады, чыноўнікі, узброеныя сілы, указы, распараджэнні і загады. Гэта і яшчэ нешта не менш важнае. Не выпадкова ж мінулагодняе пасланне Барыса Ельцына Федэральнаму сходу называлася «О действенности государственной власти в России» і змяшчала наступныя словы: «Мы еще не воспринимаем государство как одно из наиболее значительных достижений мировой истории, социальной культуры. Без него невозможно цивилизованное человеческое общежитие. Государство не только институты власти и занятые в них чиновники. Оно является прежде всего политической организацией всех граждан страны, их совместным достоянием и общим делом. Поэтому крайне опасна оппозиция государственности как таковой».

Вызначэнні, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да нашай маладой дзяржавы, нашай яшчэ хісткай дзяржаўнасці і якія з'яўляюцца дадатковым аргументам на карысць відавочнага пастулата: трэба будаваць уласную дзяржаву!

Ну а што датычыць нашых узаемадачыненняў з вялікай суседняй дзяржавай, то тут я хацеў бы спаслацца на меркаванне, якое нядаўна выказаў на старонках «Народнай волі» малады публіцыст Алесь Гібок-Гібкоўскі. «Нам жыць з Расіяй побач, выгадна гандляваць, дружыць, развіваць сапраўды духоўныя і культурныя сувязі, — піша Гібок-Гібоўскі. — Думаецца, што цалкам магчыма на роўных супрацоўнічаць «Дому-Беларусі» з «Домам-Расіяй». І дзеля гэтага наўрад ці трэба ўніжана кленчыць у іх пад дзвярыма, распінаючыся ў вечнай вернай любові, каб пусцілі ў іх Дом у якасці бедных сваякоў, а то і валацугаў прыблудных... З цягам часу зразумеюць і ў Расіі, што здаровыя, багатыя, стабільныя суседзі (у тым ліку і Беларусь, але не ў якасці ўскраіннай правінцыі), ёсць гарантыя іх унутранай стабільнасці».

У нестабільнай, расхрыстанай Расіі 16 чэрвеня — цяжкія выбары. Выбры — працістаянне. Выбары — выпрабаванне. Выбары — экзамен. Ні пуха, ні пер'я, Расія!

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

11—13 чэрвеня 96 г.

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫКІ ПРА ВЫБАРЫ Ў РАСІІ

***Заўтра грамадзяне Расійскай Федэрацыі будуць выбіраць сваю будучыню. Магчыма, на 5 гадоў, а магчыма і на 70... Сітуацыя такая, што абранне новага прэзідэнта Расіі можа азначаць і чарговую змену грамадскага ладу, і чарговыя вялікія ўзрушэнні, а можа і захаваць той таксама далёкі ад дасканаласці лад, які пануе цяпер у Расіі. Некалькі трывожных падзей, тэрарыстычных актаў у Расіі, у тым ліку выбух у Маскоўскім метро напярэдадні першага тура галасавання, сведчаць, што выбары гэтыя — рэч сур'ёзная і нават не зусім бяспечная. Тым больш іх наступствы... Праўда, у цэлым, як мяркуе большасць беларускіх палітыкаў, з якімі давозілася абмяркоўваць гэтую праблему, нават заўтрашнія выбары не змогуць цалкам змяніць ход гістарычнага развіцця Расіі, які ўжо залежыць не столькі ад палітычных, колькі ад эканамічных законаў. Праўда, магчымасць паэксперыментаваць яшчэ раз пакуль застаецца.***

***Дзяржавы Балтыі, Украіна, не гаворачы ўжо пра Польшчу і Чэхію, аглядваюцца на падзеі ў Расіі досыць зацікаўлена, але не ў той ступені, як мы, звязваючы з імі свой лёс. Беларусь, на жаль, мусіць больш за іншых аглядвацца на падзеі ў Расіі, па сваёй ці не па сваёй волі. Аднак у любым выпадку, якім бы ні быў вынік расійскіх выбараў, лёс нашай краіны мы павінны і будзем вырашаць самі. Такі быў асноўны матыў невялікага апытання дзеячаў беларускай палітыкі, з якімі давялося абмяркоўваць расійскія выбары.***

**Генадзь КАРПЕНКА, намеснік старшыні Вярхоўнага Савета, прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

— Праграма расійскіх выбараў раскручваецца вельмі магутна. Як мне здаецца, у ёй паўтараюцца памылкі, якія былі ў нашай краіне падчас прэзідэнцкіх выбараў. Ацэньваць іх цяжка... У Расіі эканоміка пагоршылася, як і ва ўсіх краінах СНД. Для простага чалавека складанасці ўспрымання пераходу ад адной формы грамадскага ладу да другой выражаюцца ў праблемах харчавання, жылля, адзення... Тут адмоўныя вынікі. І яны будуць пераносіцца на першую асобу ў дзяржаве і могуць істотным чынам паўплываць на вынікі выбараў. Я галасаваў бы за Ельцына, разумеючы ўсе бакі тых праблем, з якімі ён сутыкнуўся, якія выпалі на яго долю.

— **Вы былі нядаўна ў Ніжнім Ноўгарадзе. Што вы там сабе адзначылі з перадвыбарнай кампаніі?**

— Я адзначыў бы неадназначнасць успрымання сітуацыі рознымі людзьмі. Тыя, якія ў стане больш глыбока разабрацца ў гэтай сітуацыі, безумоўна, на баку Ельцына. Але асноўная задача гэтых людзей не толькі разабрацца самім, але і растлумачыць грамадству, што нельга ўцёмную весці народ.

— **Які ваш прагноз?**

— Я магу, шчыра кажучы, толькі спрагназіраваць падзеі да другога тура. Найбольш моцныя фігуры — Зюганаў і Ельцын. Трэцім, я думаю, будзе Лебедзь.

— **Як паўплываюць, на ваш погляд, вынікі расійскіх выбараў на Беларусь?**

— Самым істотным чынам. Калі пераможа Ельцын, я думаю, што гэта выведзе Беларусь з нейкага шоку няпэўнасці з пункту гледжання далейшага эканамічнага курсу. Калі пераможа Зюганаў, то ўжо сама па сабе яго перамога ўнясе шмат у нашы розумы, з таго ж пункту гледжання... Вельмі шмат апасенняў, што мы пачнём вяртацца назад, да курсу, які праводзіла КПСС. Частка людзей мяркуе, што гэты курс звязаны толькі з эканомікай. Але нельга забываць і чорныя 1937-ы і 1956-ы гады. Яны нас абышлі, не зачапілі, у адрозненне ад нашых бацькоў і дзядоў. Гэтыя апёкі, здаецца, нас як бы не дасталі. Нас каўбаса больш дастала. Я галасаваў бы ўсё-такі за новае. Гэта не значыць, што гэтае новае такое яснае і адназначнае, таксама ёсць шмат праблем, але гэтыя апёкі мяне пужаюць...

**Людміла ГРАЗНОВА, дэпутат Вярхоўнага Савета:**

— 16 чэрвеня канчаткова выбары яшчэ не адбудуцца, тым не менш, па-мойму, Б. Ельцын пройдзе ў другі тур першым у спісе.

— **На чым грунтуецца ваша перакананасць?**

— На прыказцы: з двух бед выбіраюць меншую.

— **А што будзе азначаць перамога Ельцына для нас?**

— Гэта перспектыва спакойнага, нармальнага цывілізаванага развіцця, а таксама адсутнасць нагнятання аўтарытарных і таталітарных тэндэнцый.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту:**

— На фоне тых парламенцкіх выбараў, якія былі ў нас, ужо тое добра, што ў Расіі Цэнтрвыбарком мае магчымасць па тэлебачанні заклікаць людзей ісці на выбары... Мне здаецца, аднак, што вельмі многае паўтараецца. Чамусьці выбарная кампанія Ельцына мне вельмі нагадвае выбарную кампанію Кебіча. Па сваёй пабудове, натуральна, а не па прафесіяналізму. Я так мяркую, што гэта можа мець той жа вынік. Ва ўсякім разе, я лічу, што пры любым зыходзе выбараў у Расіі сённяшнім нашым уладам разлічваць на тое, што ўсходняя суседка будзе нас утрымліваць, не выпадае. Любы зыход гэтых выбараў прывядзе да ўлады расійскага прэзідэнта, не гіпатэтычнага, не эфемернага, а канкрэтнага кіраўніка расійскай дзяржавы. І гэтая рэальная ўлада, якую атрымае гэты прэзідэнт, для яго будзе стаяць вышэй, чым усякія пражэкты і эфемерныя збудаванні, хаця ў палітычных мэтах магчымы самыя розныя, можа нават і авантурныя праекты.

— **І які ваш прагноз, такім чынам?**

— Мой прагноз такі: Ельцын набярэ столькі ж галасоў, колькі набраў у свой час Кебіч. Іншая справа, што ў расійскім істэблішмэнце няма такой фігуры, якая можа сабраць большасць астатніх галасоў. Зюганаў, хутчэй за ўсё, не атрымае 40—45 працэнтаў галасоў, як Лукашэнка.

— **Што будзе значыць для Беларусі гіпатэтычная перамога Зюганава?**

— Больш цесныя кантакты спадароў Калякіна і Зюганава на нейкі час. Але ўвесь парадокс у тым, што, аказваецца, нашы камуністы вельмі адрозніваюцца ад расійскіх. Апошнія — гэта нацыянал-патрыёты, нашы — наадварот. Натуральна, што яны не могуць стаць нацыянал-патрыётамі Расіі па нараджэнню, нашымі патрыётамі яны не могуць стаць па выхаванню. У што выльецца гэта розніца — час пакажа, аднак яна вельмі прынцыповая. Але ў любым выпадку беларускі лёс будзе вырашацца ў Беларусі.

**Мікалай СТАТКЕВІЧ, лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады:**

— Як і ў любой выбарчай кампаніі, у вопыце расійскіх выбараў ёсць такое, што можна скарыстаць і нам, хаця ў нас, здаецца, сітуацыя іншая. Не падабаецца мне ў расійскіх выбарах безумоўная накіраванасць усіх электронных сродкаў масавай інфармацыі на аднаго кандыдата, па сутнасці, усе тэлепраграмы працуюць на яго. А падабаецца тое, што да апошняга часу гэта рабілася дастаткова тонка.

— **Які ваш прагноз?**

— Я, шчыра кажучы, не ўяўляю, як Ельцыну можна выйграць выбары, калі людзі па некалькі месяцаў не атрымліваюць зарплату, але я не ўяўляю таксама, як яму можна прайграць. Я не стаў бы рабіць прагнозы, гэта не мая краіна і я не жыву ў ёй.

— **Тым не менш, Расія моцна ўплывае на нашу краіну. Як адаб'юцца вынікі выбараў у Расіі на Беларусь?**

— Я думаю, што, вядома, паўплываюць. Мы па-ранейшаму вельмі цесна прывязаны да Расіі. Я думаю, калі пераможа Ельцын, то газ нам могуць адключыць ужо восенню, а калі пераможа Зюганаў — то толькі зімой.

— **Істотная розніца... А ці не пабойваецеся вы прыходу ў Расіі да ўлады камуністычных сіл?**

— Безумоўна, пэўны страх ёсць, але ён датычыцца таго, ці здолее Зюганаў нейтралізаваць тых прадстаўнікоў са свайго асяроддзя, якія належаць да артадаксальнага крыла камуністаў. Эканоміка ж вымушае да пэўных крокаў, тут нікуды не дзенешся... Камуністы ў Расіі падзяліліся раней, там артадаксальнае крыло згрупавалася вакол Анпілава. Ёсць у іх і прагматычнае крыло, якое з'яўляецца таксама патрыятычным. Дарэчы, у празмерным патрыятызме гэтага крыла ёсць таксама пэўная пагроза для нас, для нашай дзяржаўнасці. Але думаю, што гэта дастаткова цвярозыя людзі, у большасці сваёй. Тут ёсць яшчэ адзін нюанс, звязаны з тым варыянтам, калі Зюганаў не пераможа. Тады камуністычная партыя Расійскай Федэрацыі будзе мяняць назву на сацыял-дэмакратычную. Для мяне, як беларускага сацыял-дэмакрата, гэта цікава. Па гэтым жа шляху могуць пайсці і некаторыя прадстаўнікі партыі камуністаў Беларусі, што выкліча раскол... Але сацыял-дэмакратычная ніша ў нас ужо занята.

**Дэпутат Вярхоўнага Савета Фёдар РУСКЕВІЧ, прадстаўнік фракцыі камуністаў:**

— Ацэнак аб іншай дзяржаве я не маю ні маральнага і ні палітычнага права даваць, я не ўпаўнаважаны даваць ацэнкі і расійскай выбарчай кампаніі.

— **Ну, а можа там ёсць што карыснага для нас?**

— Паглядзім пасля 16-га.

— **А што тады адбудзецца, які будзе вынік, на ваш погляд?**

— Пераможа Зюганаў, прычым у першым туры.

— **Адкуль у вас такая ўпэўненасць?**

— Таму што расійскія камуністы — гэта людзі, якія стаяць на варце інтарэсаў народа. Іншых людзей і партый, якія абараняюць народ, няма. Таму народ зразумее, каго выбіраць. Ён павінен зразумець, як жыць далей, бо людзі ў Расіі даведзены да галечы. І мы да гэтага ідзём.

— **А вы маеце з Расіяй сувязь?**

— Па тэлефоне размаўляю з сябрамі. Часам яны да мяне прыязджаюць, і тады я ім даю з сабой бульбы са свайго прысядзібнага ўчастка, хоць некалькі сетачак. Дрэнна яны жывуць. Бульба ў іх каштуе па 4-5 тысяч і то яна нейкая галандская, а не расійская, яна нясмачная, яе нельга параўнаць з нашымі сартамі.

— **Дык простыя людзі ў Расіі за Зюганава?**

— Вядома, а тыя, хто накраў і працягвае красці, будуць галасаваць за Ельцына і да яго падобных. Бедных, зразумела, больш.

— **А чым абернецца для нас і для вас перамога Зюганава?**

— Я лічу, што калі ў Расіі такі працэс пойдзе, а добры прыклад пераймальны, тады і ў нас сітуацыя будзе паляпшацца, і мы за тое, каб людзі жылі добра. А мы ж заключылі з Расіяй саюз...

— **А ці гатовы камуністы аднаўляць Савецкі Саюз?**

— Навошта? Трэба розныя пытанні вырашаць, трэба каб навукоўцы шмат папрацавалі над тым, як нам супрацоўнічаць. Не будзе гэтага закарузлага палітбюро, не будзе гэтых пярэваратняў, якія шмат нашкодзілі, а потым здрадзілі партыі. Усё гэта павінна быць выключана.

— **І рэпрэсій не будзе?**

— Аб чым вы гаворыце, аб якіх рэпрэсіях!.. Вось сёння з падваротняў павылазілі дзеці паліцаяў. І сёння яны нагнятаюць атмасферу і ў нас, і ў Расіі. Таму яны, вядома, будуць абурацца, баяцца камуністаў. Але гэта будзе не так, як яны пужаюць. У партыі засталіся толькі людзі, якія гатовы працаваць у інтарэсах народа.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# КАПАЎ, КАПАЎ КРЫНІЧАНЬКУ

Песні пра крыніцы. Колькі слоў прысвечана ім! Колькі мелодый імі накалыхана!

Крыніца — гэта частка жыцця любога паселішча. Тут бралі ваду. Тут сустракаліся ўдзень, надвячоркам хлопцы з дзяўчатамі. Тут можна было ў адзіноце выказацца-выплакацца, даверыць ля струменістай вады прыродзе, Богу свае пачуцці, перажыванні.

У народнай творчасці, літаратуры крыніца — сімвал чысціні, першароднасці, гэта і сімвал першай любові, юнацкага кахання. Капаць крыніцу — гэта выяўляць любоў, любоў светлую, ахвярную. Крынічная вада падтрымлівае наша існаванне, а любоў, каханне ператвараюць яго ў прасветленае, паўнакроўнае жыццё. Капаць крыніцу — гэта і дарыць любоў, накіроўваць свае пачуцці на карысны для ўсіх занятак, і думаць-дбаць пра будучыню, ствараць умовы для сямейнай утульнасці, гэта і своеасаблівы знак падрыхтаванасці да шлюбу.

Беларускі край багаты на крыніцы. Багаты ён і на песні пра іх. Прыгадаем асобныя: «А ў полі крынічанька», «У роўным полі крынічанька», «А дзе тая крынічанька», «Расла чаромха», «Туман ярам», «Ой, хаджу я, хаджу» і шэраг іншых, дзе крыніца выступае і месцам, вакол якога разгортваецца дзеянне, і якраз той акалічнасцю, з якой пачынаецца новы перыяд у жыцці закаханых.

Адну з падобных песень — «Ой, у полі крыніца» — змяшчалі на старонках нашай газеты 17 лютага г. г.

Сюжэт песні «Капаў, капаў крынічаньку» распаўсюджаны на Беларусі, бытуе ў розных варыянтах. Пашыраны ён і на Украіне. Спяваюць песні пра крыніцы і на поўдні Расіі. У мелодыі выяўляецца адметнасць тэрыторыі і краю і, адпаведна, — характар і паводзіны яго насельнікаў. Параўнаем з аналагічнаю назваю песні з рэпертуару Кубанскага казацкага хору, у выкананні якога маляўніча перададзены казацкая гуллівасць, перапоўненае неўтаймоўнай энергіяй юнацкае пачуццё, і запісаную на Браслаўшчыне:

*Капаў, капаў крынічаньку*
*У сваім саду,*
*Каб хадзіла мая мілка*
*Са мной па ваду.*
*Ах, жаль, жаль мне будзе,*
*Возьмуць чужыя людзі,*
*Ды мне не будзе.*

Найбольш пашыраны варыянт песні, што запісаны на Слонімшчыне:

*Капаў, капаў крынічаньку*
*Нядзелькі дзве.*
*Любіў, любіў дзяўчыначку*
*Людзям — не сабе.*
**Прыпеў:**
*Жаль, жаль, жаль мне будзе:*
*Возьмуць яе ў людзі,*
*Возьмуць яе ў людзі —*
*Мая не будзе.*

*А ўжо ж тая крынічанька*
*Замуцілася.*
*А ўжо ж мая дзяўчыначка*
*Зажурылася.*
**Прыпеў.**
*Да ўжо з маёй крынічанькі*
*Арлы ваду п'юць,*
*Да ўжо ж маю дзяўчыначку*
*Да шлюбу вядуць.*
**Прыпеў.**
*Адзін вядзе за ручаньку,*
*Другі за рукаў,*
*Трэці ідзе галосячы:*
*«Любіў, ды не ўзяў».*
*Ой, жаль не памалу:*
*Любіў дзеўчыну змалу,*
*Любіў дзеўчыну змалу,*
*Любіў, ды не ўзяў!*




*Мелодыя запісана на Вілейшчыне ад Софіі Барыс (в. Косічы) у 1963 годзе.*

У адрозненне ад яе, у іншых маюцца адметнасці ў асобных словах, выразах, нават радках («Капаў, капаў крынічаньку, Капаў жа і дзве», «Не капайце крынічэньку, Не будзе вады. Не кахайце дзяўчыненьку — Не будзе бяды» або «Трэці стаіць, слёзы роніць», Трэці стаіць, у рукаў плача», «А я стаю і шкадую, Што вадзіў ды не ўзяў» і да т. п.). Тут назіраецца імправізацыя, калі выканаўца змяняе асобныя фразы, прыстасоўваючы іх па свайму разуменню да новых, больш адпаведных для сваёй мясцовасці ці канкрэтнага выпадку абставінаў.

Разнастайна падаюцца і радкі, якія выступаюць своеасаблівым прыпевам, што часам змяняецца, асабліва на заканчэнні песні. Так яны адлюстраваны ў слонімскім варыянце. У запісе С. Сахарава («Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў», Рыга, 1940)

*Ох, жаль, жаль нямалы, любіў я дзяўчыну змала,*
*Любіў яе нямала, ды не ўзяў!*
чаргуецца з
*Ох, жаль, жаль мне будзе, возьмуць яе людзі,*
*А мая не будзе!*

Многія сучасныя выканаўцы іх аб'ядноўваюць.

Аднак ва ўсіх варыянтах перадаецца смутак хлопца, яго журба, боль ад таго, што каханне знічкай успыхне ў маладосці і пакіне настальгічны ўспамін на ўсё жыццё. На спрадвечнае імкненне моладзі да паразумення, яднання грамада накладвае свой адбітак:

*Не ўсе ж тыя сады цвітуць,*
*Не ўсе ж разам асыпаюцца,*
*Не ўсе ж тыя з сабой жэняцца,*
*Што любяцца ды кахаюцца.*

Але гэта радкі з іншай песні, дзе таксама спяваецца пра крыніцы, каханне і смутак. Над яе зместам паразважаем у наступны раз.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## СА ЎСЯГО СВЕТУ

### ХЛЕБ ДЛЯ СВАРЛІВЫХ

Швейцарскія медыкі вызначылі цікавы факт. Па аналізах крыві 266 пацыентак яны даказалі, што дрэнны характар гаспадынь ва ўзросце ад 35 да 50 гадоў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад пакупкі паўфабрыкатаў і гатовых страў еўрапейскай кухні ў рэстаранах і кафэ. У такой ежы вельмі мала вітамінаў групы В. У жанчын пачынаюцца наплывы дрэннага настрою, бяссонніца, мігрэнь. Свой дрэнны настрой яны спаганяюць на членах сям'і. Пяшчотнаму жаночаму арганізму патрабуецца шмат спецыфічных гармонаў, для сінтэзу якіх і неабходны вітаміны.

Дарэчы, народная медыцына даўно ведала гэта. Для лячэння «сварлівых баб» заўсёды раілі хлеб з вотруб'ем, тварог, сырую агародніну і супы без доўгатэрміновай цеплавой апрацоўкі, г. зн. вітамінізаваную ежу.

### НАПОЙ... З МУРАЎЁЎ

У Кітаі выключнай папулярнасцю карыстаецца новы напой. Яго гатуюць па арыгінальнай рэцэптуры з... сушаных і молатых мураўёў. У напоі ўтрымліваецца столькі ж бялковых рэчываў, колькі і ў соі, акрамя таго яшчэ 19 амінакіслот. Кітайскія ўрачы раяць навінку самым маленькім, бо ў ёй ёсць пэўная колькасць цынку, недахват якога часам з'яўляецца прычынай маруднага росту дзяцей.

### КАЛАРЫЙНЫЯ ФІНІКІ

З даўніх часоў у арабскіх краінах фінікі лічаць самым карысным прадуктам харчавання. «Хто патрасе ствол фінікавай пальмы, той збярэ спелыя плады. Паспытай, і твае вочы праясняцца і душа ўзрадуецца»,— гаварылі ў старажытнасці. У прыродзе існуе шмат відаў фінікаў. Напрыклад, у Іраку іх налічваецца 350 відаў, але толькі некаторыя ідуць у продаж. Цукар, які ўтрымліваецца ў фініках, тут жа засвойваецца чалавечым арганізмам. Аднак трэба памятаць, што 400 грамаў фінікаў даюць чалавеку 1275 калорый: не так ужо мала, калі чалавек мае лішнюю вагу.



## ВІНШАВАННІ

Віншуем з днём нараджэння ўнукаў і пляменнікаў **Ігара і Сяргея Манкевічаў.** Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага. ***Дзядуля, бабуля і цёця Рая.***

Паважаны **Міхаіл Паўлавіч Раманько!** Сардэчна віншуем Вас з 50-годдзем. Моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы і жыцці. ***Сям'я Гіро,*** *г. Беразіно.*

Віншуем дарагога татулю **Мікалая Уладзіміравіча Гаруса** з 55-годдзем. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады. ***Жонка, дзеці, унукі.***

Віншуем дарагога і любімага сына і брата **Уладзіслава Аляксеевіча Кажурына** з днём нараджэння. Шчасця табе, здароўя і ўсіх зямных даброт. ***Родныя.***

Віншуем дарагую дачушку **Людмілу Уладзіміраўну Барысавец** з днём нараджэння. Шчасця, здароўя, дабрабыту табе, любая. ***Родныя.***

Сардэчна віншую з днём нараджэння **Кацярыну Яўгенаўну Лагун.** Жадаю здароўя, шчасця, міру і любові. ***Сястра Зоя.***

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

**По гарызанталях і вертыкалях:** 1. Бальны танец французскага паходжання. 2. Вядомы камандарм часоў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 3. Беларускі кампазітар. 4. Памяшканне для выездкі, трэніроўкі коней. 5. Італьянскі анатам і фізік, адзін з заснавальнікаў вучэння аб электрычнасці. 6. Від вучэбных заняткаў у ВНУ. 7. Узброенае вайсковае падраздзяленне або група для нясення аховы, варты. 8. Раманс А. Аляб'ева. 9. Горад-порт у Францыі. 10. Паганяты запрэжкі сабак на Поўначы. 11. Музычная п'еса для фартэпіяна. 12. Плод цытрусавага дрэва. 13 Лепшае, адборнае насенне, расліны, жывёлы. 14. Трагедыя Ж. Расіна. 15. Від жывапісу, пераважна батальнага. 16. Легендарны крэйсер часоў руска-японскай вайны 1905 г. 17. Рыштунак для бяспекі твару фехтавальшчыкаў. 18. Тканіна, перавязачны матэрыял. 19. Кароткае апісанне ўласнага жыцця. 20. Участак завода або цэха для нанясення на металічныя лісты тонкага слою іншага металу. 21. Участак лесу для штогодняй высечкі. 22. Падводная лодка капітана Немо. 23. Буйнейшы музей у Санкт-Пецярбургу. 24. Горная дарога праз хрыбет. 25. Масавыя перыядычныя друкаваныя выданні. 26. Пачатковы момант спартыўнага спаборніцтва. 27. Лесвіца на караблі. 28. Кармавая расліна роду капусты. 29. Вялікая галянастая птушка. 30. Рухомая гульня спартыўнага тыпу. 31. Заменнік, сурагат. 32. Вобласць актыўнага жыцця на зямлі, у вадзе і ў паветры. 33. Адзін са старых кінатэатраў у Мінску. 34. Адзінка ціску і механічнага напружання. 35. Персанаж камедыі А. Грыбаедава «Гора ад розуму».

**Склаў Мікалай ТАРАСІК.**
*Вілейскі раён, в. Куранец.*



### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-трасянка (8 чэрвеня)**

**Па гарызанталях:** 5. «Мілавіца» (адно з прамысловых прадпрыемстваў г. Мінска). 6. Драмедар (аднагорбы вярблюд). 8. Рэйсфедэр (прыведзены назвы чарцёжных прылад). 9. Карат (мера вагі каштоўных камянёў). 10. Жолуд (плод дуба). 11. «Волга» (прыведзены назвы жывёл — сімвалаў марак аўтамабіляў). 13. Чарот (названы псеўданімы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў). 15. Кідас (помесь собаля і лясной куніцы). 17. Едыгей (названы персанажы твораў Ч. Айтматава). 18. Статак. 22. Поўня. 24. Аўтар (фрагмент афармлення тытульнай старонкі кнігі). 25. Катэт (старана прамавугольнага трохвугольніка). 26. Адгул. 27. Склеп. 28. Овердрафт. 29. Індзейцы (ілюстрацыя мастакоў Г. і Н. Паплаўскіх да кнігі Ф. Купера «Зверабой»). 33. «Антыгона» (прыведзены назвы трагедый Сафокла).

**Па вертыкалях**: 1. Лістапад (назвы месяцаў на балгарскай мове). 2. «Квартэт» (радкі з байкі І. А. Крылова). 3. Смаржок (ранні веснавы грыб). 4. Партулак (расліна-пустазелле, якое выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне). 7. Афелія (адна з дзеючых асоб балета Р. Габічвадзе «Гамлет»). 11. Віцебск (абласны цэнтр Беларусі). 12. Аметыст (каштоўны камень, які адпавядае па гараскопу Рыбам). 14. Ордэн (адлюстраваны ордэн Айчыннай вайны). 16. Ісаеў (галоўны персанаж рамана Ю. Сямёнава «Семнаццаць імгненняў вясны»). 19. Поўдзень (адлюстраванне знака на скрыжаванні лясных прасек). 20. Метода. 21. Балерына. 23. Ядловец (адлюстравана галінка з ягадамі-пладамі). 24. Аўстрыя (названы краіны, што мяжуюць са Швейцарыяй).

### КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка словы народнай мудрасці.

а) 1-2-3-4-5-6-7 — прадукт сухой перагонкі драўніны, торфу,

б) 8-9-10 — раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці,

в) 11-5-12-13-14 — сталіца еўрапейскай дзяржавы,

г) 15-16-17-18-5 — пара года,

д) 19-20-10-21 — спецыяльны ахоўны галаўны ўбор.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2991.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12